ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

9 мая 1997 г. № 19/3895 Кошт 3 000 руб.

## САМ БОГ НАКАЗАЎ...

***Святлана БАГДАНКЕВІЧ: "Цяжка нават уявіць, наколькі шчаслівейшай была б наша Беларусь, калі б апошнія 200 гадоў магла жыць самастойным, свабодным і незалежным жыццём. Але лёс, гісторыя не давалі нам такога шансу, атрымалі яго мы толькі цяпер".***

**5**

## НЕ ПРАЧЫТАЦЬ СВАЮ КНІГУ

***Ала ПЕТРУШКЕВІЧ: "Да гэтага невясёлага роздуму падштурхнулі мяне падзеі сумныя, сапраўды вартыя часу смуты, у якім мы жывём. Беларускія пісьменнікі не могуць прачытаць свае кнігі. Па розных, здавалася б, прычынах, але сутнасць гэтых прычын адна — цемра. Гэта — наша сёння, рэаліі цяперашняга жыцця. Натуральна, нітка пацягнулася ў мінулае. І там — тое ж".***

**7**

## ХОЧАЦЦА ПРАЎДЫ ПРАСВЕТНАЕ...

***Вершы Сяргея ПАНІЗНІКА***

**8**

## ДЗЕЛЯ ДУШЭЎНАЙ РАЎНАВАГІ

***Марк ВОЛАХАЎ: "Культуру загубіць — трэба адзін добры загад аднаго непрафесійніка, які не разумее, што робіць. І ўсё. А потым паспрабуйце падыміце, аднавіце, адрадзіце..."***

**11**

### ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА

*Шаноўныя чытачы, працягваецца падпіска на наш тыднёвік на другую палову 1997 года. Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт тыднёвіка на паўгоддзе — **60 тысяч** рублёў, на квартал — **30 тысяч**, на месяц — **10 тысяч**.*

**Наш індэкс — 63856.**



Раіса Баравікова сцвярджае, што жаночай паэзіі не існуе.

Аднак усе, хто пісаў пра яе асобу і яе творчасць, аднагалосна падкрэсліваюць, як найбольш уласцівую ёй рысу, жаноцкасць.

Што гэта, супярэчнасць? Гэтак жа, як і спалучэнне знешняй светласці, мяккасці, усмешлівасці з рэдактарскай і дэпутацкай (няхай усяго на ўзроўні райсавета) працай, са здольнасцю цягнуць традыцыйны творча-побытавы крыж і не падаць пад яго цяжарам — хаця менавіта такія "падзенні", сыход ад найвялікшай адказнасці ў спакуслівa скандальнае багемнае мроіва многімі лічыцца прызнакам сілы... Дзівакі! Толькі слабы чалавек знаходзіць суцяшэнне па той бок адказнасці. І толькі надзвычай моцны чалавек не адкажа злом на зло, не растраціць сваёй светласці, усмешлівасці, дабрыні.

Так, жаночай паэзіі сапраўды не існуе, як не існуе паэзіі мужчынскай... Ёсць паэзія халодная — і страсная, добрая — і агрэсіўная, сапраўдная — і несапраўдная...

Неяк у гутарцы Раіса Баравікова сказала, што наступную сваю кніжку назаве "Ружы апошніх пацалункаў", і яна, магчыма, завершыць яе паэтычны шлях, бо паэтка падасца ў іншыя літаратурныя жанры...

І тут дазвольце не паверыць. Таму што паэзія для Раісы Баравіковай — не прафесія і не жанр, а стыхія, у якой яна існуе. І якое значэнне маюць лічбы пражытых гадоў — няхай самыя юбілейныя? Хіба стыхія старэе? Хіба ёсць узрост у вады, у агні, у кахання? У паэзіі? У паэта?

"ЛіМ" сардэчна віншуе спадарыню Раісу з сонечным юбілеем, шчыра жадае ёй многіх і многіх жыццёвых вёснаў, заўсёднай творчай маладосці, здароўя, шчасця...

У сённяшнім нумары "ЛіМа" друкуецца новае апавяданне шаноўнай юбіляркі "Каханне дысідэнта".

# КОЛА ДЗЁН

***Чым бліжэй час мяркуемага падпісання Статута Саюза Беларусі і Расіі, тым больш пытанняў, што ў рэшце рэшт будзе падпісана 15 траўня і ці будзе падпісана штосьці ўвогуле. Абмеркаванне Статута, па сутнасці, не атрымалася. Мяркуючы па друку і тэлебачанні, былі толькі катэгарычныя "за", нічым не абгрунтаваныя, акрамя эмоцый, і такія ж катэгарычныя "супраць". Любая ж аргументацыя выклікала здзіўленне тыпу: навошта гэтакі Саюз Расіі, альбо — навошта гэтакі Саюз Беларусі? Бо з эканамічнага боку, дзеля міфічнага "славянскага брацтва", якому, дарэчы, нішто не пагражае, страты панясуць і адна, і другая дзяржавы. Словам, каторы ўжо год справа топчацца вакол аднаго і таго ж сцвярджэння-пытання: Саюз трэба, але які? Адказ на гэтае пытанне пакуль не знойдзены...***

## НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

Увесь мінулы тыдзень Беларускае тэлебачанне паказвала дакументальны серыял пад назвай: "Візіт Прэзідэнта..." Спачатку пра наведванне Паўднёвай Карэі, потым В'етнама, а потым і Кітая. Прымалі А. Лукашэнку, як кіраўніка суверэннай дзяржавы, на вышэйшым узроўні. Падпісаны важныя дакументы аб эканамічным супрацоўніцтве, дамоўлена аб стварэнні амбасадаў... і думалася, няўжо гэта ўсё можа "ляснуцца" 15 траўня (ці трохі пазней), калі прэзідэнт Беларусі стане губернатарам шасці расійскіх губерняў ці кіраўніком рэспублікі кшталту Татарстана?.. Навошта? Дзеля чаго? Добра, нават калі ў прэзідэнта ёсць вялікая перспектыва ў аб'яднанай краіне, дык кім у ёй будуць дзесяткі сённяшніх міністраў і кіраўнікоў розных упраўленняў Адміністрацыі?.. Зразумела, у сувязі з гэтым, што яны як закліннанне паўтараюць словы пра неабходнасць захавання суверэнітэту, але хто ў іх спытаецца?..

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"На цвярозы розум, дык перш чым уступіць у які-небудзь хай сабе самы выгодны саюз, кожны народ павінен прайсці свой, гістарычна прызначаны адрэзак шляху, перарасці хібы шматгадовага зла, выкараніць у сабе раба, накапіць патрэбны маральны набытак, пазнаць калі не практыку, дык хоць бы патрэбу ў раўнапраўным дэмакратычным існаванні. У саюзе часу на тое не будзе, як, можа, не будзе і патрэбы. Аб'яднанне павінна разглядацца як стратэгічная мэта, а не які-небудзь спекулятыўны сродак, паратоўчае выйсце з авантурнай палітыкі. Менавіта пра тое сведчыць палітычны вопыт Еўропы XX стагоддзя, здабыты з практыкі найперш яе нацыянал-дэмакратызму. Сацыял-дэмакратызму таксама".
*(З артыкула Васіля Быкава "Што можа чакаць беларускі народ ад ідэалагічных імпатэнтаў...", "Народная воля", 3 траўня г.г.)*

## СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

Свята працы было дазволена адзначыць на пляцы Незалежнасці. Прычым усім: як афіцыйным прафсаюзам, так і незалежным, як тым, хто падтрымлівае прэзідэнта, так і апазіцыі. Такім чынам, ад пачатку было спланавана супрацьстаянне калон пад рознымі сцягамі і з рознымі лозунгамі. І таму пасля выступлення лідэра сацыял-дэмакратаў М. Статкевіча калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі пакінула пляц Незалежнасці і накіравалася да Палаца спорту, дзе апазіцыя правяла свой мітынг. Афіцыйны мітынг працягваўся не доўга. Сабраныя загадамі кіраўнікоў людзі амаль адразу пачалі разыходзіцца. Менш чым праз гадзіну на пляцы амаль нікога не засталося. Вынікам жа апазіцыйнага мітынгу стаў арышт Міколы Статкевіча.

## АБСУРД ТЫДНЯ

Улады закончылі праверку дзейнасці Беларускага фонду Сораса. Па выніках яе фонду прад'яўлены акт праверкі, згодна з якім БФС абвінавачаны ў нейкіх парушэннях, нібыта дапушчаных ў ходзе яго дабрачыннай дзейнасці, і, адпаведна, павінен выплаціць дзяржаве каля трох мільёнаў долараў ЗША... Як паведамляе служба інфармацыі і грамадскіх сувязяў БФС, сума гэтая роўная палове гадавога бюджэту фонду, летась на рэалізацыю розных дабрачынных праграм было патрачана 6 мільёнаў долараў... Абсурднасць заключаецца яшчэ і ў тым, што грамадскую арганізацыю, якая фінансуецца прыватнай асобай, правяралі па тых жа крытэрыях, што і камерчыя структуры. Пры гэтым не было ўлічана, што яшчэ ў 1995 годзе Кабінет Міністраў прыняў дзве пастановы, якія забяспечвалі гранты БФС беспадаткавым статусам. Беларускі фонд Сораса не прыняў усе гэтыя абвінавачванні і пакінуў за сабою права апратэставаць іх.

## СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ

Пад рубрыкай "Улада: на кантролі ў Прэзідэнта" "Советская Белоруссия" 3 траўня г.г. надрукавала артыкул "Барацьба з карупцыяй працягваецца, матэрыялы "дзейнасці" галоўнага рэдактара "ЗЮ" І. Гукоўскага накіраваны ў пракуратуру". Вось цытата: "Гукоўскі вельмі своеасабліва расцаніў аказаны яму высокі давер і замест таго, каб займацца газетнай справай, прысвяціў пэўную частку сваёй энергіі больш хвалюючым заняткам — камерцыі. Карыстаючыся паўнейшай бескантрольнасцю з боку пэўных кіраўнікоў (далей у каментарыі рэдакцыі канкрэтна называецца былы намеснік кіраўніка Адміністрацыі У. Замяталін. — **Рэд.**), якіх Гукоўскі зачараваў як дзеяч "патрыятычнай накіраванасці", малады рэдактар вельмі вольна выкарыстоўваў бюджэтныя сродкі, якія выдзяляліся дзяржавай для вытворчасці газеты, і сродкі, атрыманыя ад гаспадарчай дзейнасці". Карацей, Камітэт Дзяржкантролю выявіў, што за час сваёй працы галоўным рэдактарам "Знамя юности" І. Гукоўскі нанёс дзяржаве страты ў 40 тысяч долараў ЗША... Расследаванне "дзейнасці" І. Гукоўскага, якім цяпер займаецца УБЭЗ МУС, працягваецца... Гісторыя вельмі і вельмі прыкрая. І паказальная. Больш таго, з вельмі яскравымі гістарычнымі (і не толькі) паралелямі...

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

30 красавіка на газаправодзе Таржок—Мінск—Івацэвічы ў 60 кіламетрах ад Мінска, ля вёскі Літва адбыўся магутны выбух. Было пашкоджана каля 20 метраў трубы газаправоду, металічныя кавалкі яе разляцеліся на 150-200 метраў. У выніку пажару, які працягваўся 2 гадзіны, лес выгараў у радыусе 100 метраў вакол эпіцэнтра выбуху. Прычыны здарэння пакуль не высветлены. Спецыялісты лічаць, што выбух мог адбыцца з-за "старэння металу".

Але 1 траўня газета "Свабода" атрымала ліст, у якім адказнасць за гэты выбух, а таксама за выбух на газакампрэсарнай станцыі блізу Крупак 28 красавіка г.г. і абстрэл расійскай амбасады 1 красавіка г.г. бярэ на сябе нікому не вядомае дагэтуль "Беларускае вызвольнае войска"... Вядзецца следства. Але, мяркуючы па СМІ, улады Беларусі пакуль тэму магчымасці тэрарыстычнага акта не падтрымліваюць...

З НАГОДЫ

# "Мінская вясна". Майскі этап

Напярэдадні Першага траўня прэзідэнт РФ Б. Ельцын, павіншаваўшы суайчыннікаў, адзначыў у віншаванні наступны пазітыўны момант: сёння, у адрозненне ад савецкага часу, ніхто нікога гвалтам на мітынгі і дэманстрацыі не гоніць. Мітынгуй пад якімі заўгодна сцягамі і лозунгамі; разам з тым, ніхто сёння не скажа кепска пра чалавека, які Першага траўня паедзе на лецішча альбо іншым шляхам ухіліцца ад удзелу ў палітычным супрацьстаянні. Ельцын мае рацыю, гэта сапраўды заваёва дэмакратыі. У Савецкім Саюзе ўсё, што не было дазволеным, лічылася забароненым, а дазволенае было абавязковым. Дэманстрацыі былі дазволеныя дзве на год — Кастрычнік, Першамай. Хадзіць на іх даводзілася як на службу. Калі вучыўся ў інстытуце і працаваў на заводзе, пахадзіў на так званыя дэманстрацыі і я.





Мой тэатральна-мастацкі інстытут хадзіў на дэманстрацыі са сваім уласным "ленінм". Пад правадыра сусветнага пралетарыяту быў загрыміраваны нейкі выкладчык тэатральнага факультэта. Усю дарогу ён сядзеў у кабіне "загрыміраванага" пад бранявік грузавіка, а на плошчы з'яўляўся на людзі і прамаўляў пра рэвалюцыю, "о необходимости которой так долго говорили большевики". Так было...

Зараз у Беларусі ці то час спыніўся, ці "застойныя гады" вярнуліся. Не хапае толькі афіцыйных заклікаў, надрукаваных на першых палосах усіх газет. Застойную "гармонію" псуе толькі наяўнасць легальнай апазіцыі. Як і летась калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі брала ўдзел у шэсці па праспекце Скарыны і афіцыйным мітынгу на плошчы Незалежнасці. З той розніцаю, што летась на плошчы паміж палітычнымі апанентамі стаялі шэрагі міліцыянтаў, не дапускаючы ні спрэчак, ні сутыкненняў. Гэтым разам кардоны адсутнічалі, таму дружыне апазіцыі давялося бараніць сваіх ад бальшавіцкіх правакатараў, якія лезлі ў бойку.

Сам мітынг чымсьці нагадваў тую імпрэзу, што адбылася 26 красавіка ля плошчы Бангалор. Такая ж спроба арганізаваць дэманстрацыю ўсенароднай падтрымкі ўлады. Такая ж нескаардынаванасць у лозунгах і прамовах. Інакш кажучы, атрымалася гэтаксама бяздарна. І найперш таму, што тыя, хто прыйшоў на плошчу пад бел-чырвона-белымі сцягамі, не пажадалі ўдзельнічаць у спектаклі, арганізаваным "вертыкаллю".

Калону апазіцыі на плошчу прывёў лідэр сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч. Пасля сваёй прамовы на мітынгу ён растлумачыў, што афіцыйныя СМІ запішуць усіх прысутных у прыхільнікі прэзідэнта. А значыць, усе, хто вольны чалавек, — хадзем з плошчы!

З плошчы Мікола Статкевіч павёў народа недзе ўтрая болей, чым прывёў. "Галоўурач сказаў, што яму загадалі, каб на мітынгу было ад бальніцы не меней дзесяці чалавек. Пайшоў, значыць, ён сам і пацягнуў нас, загадчыкаў аддзяленняў. А чаго я тут не бачыў?" — гаварыў мне мужчына, які далучыўся да калоны апазіцыі, калі яна пакідала плошчу.

Шэсце рушыла па праспекце Скарыны, звярнула на вуліцу Леніна, далей па праспекце Машэрава. Свой кароткі мітынг апазіцыя наладзіла ля Палаца спорту. Цікава, што побач з беларускімі нацыянальнымі сцягамі лунаў расійскі трыкалор з ружай, зацiснутай у кулаку, — партыйны сцяг расійскіх сацыял-дэмакратаў. Кіраўнік расійскай дэлегацыі ад імя сваіх аднадумцаў вітаў апазіцыю на мітынгу ля Палаца спорту.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
*Фота БЕЛТА*

ВЫСТАВЫ

# Такі, які ёсць

Сёлета Міхаілу Савіцкаму 75 год. Гэтаму юбілею прысвечана выстава ў Палацы мастацтваў. Яна займае цэлы паверх. На ёй прадстаўлена творчасць мастака недзе за трыццаць гадоў. У экспазіцыі некалькі твораў 60-х гадоў — класіка "суровага стылю" Беларусі; два вялікія цыклы — "Лічбы на сэрцы" і прысвечаны чарнобыльскай катастрофе; работы апошніх гадоў, дзе прама ці ўскосна прысутнічае біблейская тэматыка, біблейскія вобразы, партрэты філосафаў славянафільскай арыентацыі. Ёсць і іншае.

Адразу скажу, што выстава атрымалася для ўспрымання цяжкая. Змрочная выстава. Калі пасля яе выходзіш на вуліцу, адчуваеш палёгку і задавальненне ад таго, што свеціць сонца, расце трава, столькі вакол прыгожых жанчын і ўвогуле жыццё працягваецца. Калі мастак меў мэтай такім чынам нагадаць гледачу, якая цудоўная рэч жыццё, дык ён свайго дамогся. Праўда, мне здаецца, што Міхаіл Андрэевіч хацеў чагосьці іншага. Палатно гаворыць пра мастака значна болей, чым самая дасканалая анкета, самае падра-



*М. Савіцкі. "Рэквіем", 1988г.*

бязнае інтэрв'ю. Мне неяк бліжэй творчасць Савіцкага 60-х гадоў — "Партызанская мадонна", "Віцебскія вароты", "Хлябы", "Пакаранне смерцю". Мне здаецца, што потым мастак не столькі набываў, як губляў. Мастак станавіўся ўсё больш акадэмічным і менш шчырым. У палотнах — усё больш натуралізму, менш думкі. Усё менш свайго, знойдзенага, выпакутаванага — усё болей "пазычанага", скампіляванага. На маю думку, канцлагерны і чарнобыльскі цыклы, якія сёння сталі ледзь не візітоўкай Міхаіла Савіцкага, творы значна слабейшыя, чым тыя, якія прынеслі яму першы поспех.

Найбольш характэрны твор М. Савіцкага апошняга часу-гэта вертыкальнага фармату палатно, у цэнтры якога нагамі на гледача ляжыць нябожчык (альбо ў труне, альбо проста так), а над ім сабраўся ці то натоўп людзей, ці то грамада анёлаў.

Абсалютна пазбаўлены пазітыўнага зместу, пазітыўных эмоцый біблейскія сюжэты ў Міхаіла Савіцкага. Гэта вельмі аднабокае стаўленне да вялікай кнігі хрысціян. У Старым і Новым Запавеце шмат драматычных, крывавых эпізодаў, але сам строй Бібліі — аптымістычны. Нават Апакаліпсіс, мроі Страшнага суда, маюць эпілогам "І пабачыў я новае неба і новую зямлю".

Рабіць агляд юбілейнай выставы–тое ж самае, што рэцэнзаваць жыццё мастака, а гэта, так бы мовіць, не мая прафесія, не мая справа... Зрэшты, у Міхаіла Андрэевіча ёсць свой глядач, які шануе мастака такім, які ён ёсць.

**В. БОГУШ**

ВЕЧАРЫНЫ

# Расказаць пра песню словам — ці магчыма?

Аднак у той вечар усе гаварылі толькі пра песню і... песнямі. Гаварылі пра стваральніка гэтых цудоўных беларускіх песень. Музыканта з вялікай літары, без чыйго імя ўжо сёння немагчыма ўявіць беларускую мастацкую культуру. Віталі яго — таленавітага, працавітага і сціплага чалавека. Віншавалі з нядаўнім юбілеем. Прадстаўлялі ягоныя творы — і ўжо хрэстаматыйныя (але актуальныя, жывыя!), і зусім новыя.

Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Леанід Захлеўны запрасіў у той вечар на сваю аўтарскую праграму шматлікіх сяброў. А колькі было ахвотнікаў патрапіць у Цэнтральны Дом афіцэраў з "проста слухачоў" — не знаёмых нават кампазітару прыхільнікаў ягоных песень! Сам ён потым дзякаваў добрай, шчырай аўдыторыі і перапрашаў у тых людзей, якія мусілі застацца па-за сценамі залы...

Называлася праграма "Бераг белых буслоў". Панавалі на тым беразе чысціня пачуццяў, светлыя мроі, трывожныя ўспаміны, шчодрасць усмешкі. Радасць жыцця на гэтай зямлі "пад белымі крыламі"! І думалася на тым беразе, што, як няма найлепшай краскі ў лузе, бо ўсе — прыгожыя, так і няма найлепшай кветкі ў песенным садзе Леаніда Захлеўнага, бо ўсе — цудоўныя!

Сярод ягоных сатворцаў — Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Някляеў, Міхаіл Ясень, Лявон Пранчак, Уладзімір Карызна, Алесь Бадак, Аляксандр Лягчылаў, Мікола Траццякоў...

Сярод ягоных выканаўцаў — і дзеці, і знаныя ўжо лаўрэаты, і ветэраны канцэртнай эстрады. У той вечар пачулі мы песні Захлеўнага ў выкананні Нэлі Багуслаўскай, Валерыя Дайнекі, Алега Ціўунова, Юрыя Багаткевіча, Віктара Бардунова, Валерыя Скаражонка, Ірыны Дарафеевай, Мікалая Рудзені, Андрэя Тушынскага, Міколы Скорыкава, Галіны Грамовіч, Наталлі Тамелы, Якава Навуменкі, Святланы Суседчык, ансамбляў "Памяць сэрца", "Сябры", "Бяседа", "Званочкі", дуэта Ядвігі Паплаўскай ды Аляксандра Ціхановіча, Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвм Міхала Фінберга і яшчэ многіх салістаў...



Леанід Захлеўны спяваў і сам, уражваючы душэўнай, пранікнёнай інтанацыяй прыемнага камернага голасу, амаль "поліінструментальнай" выразнасцю фактуры ўласнага фартэпіяннага акампанементу.

Былі добрыя словы вядучай вечарыны — Зінаіды Бандарэнкі. І старэйшага калегі ды настаўніка — Ігара Лучанка. І сяброў-паэтаў. І...

І — "Поле памяці", "Беларускі світанак", "Бацькоў не забывай", "Насіце ордэны", "Найлепшая ў свеце жанчына", "Каля Чырвонага касцёла", "Вясновая песня Радзіме"... Былі песні. Розныя. Папулярныя, Прэм'еры. І ў кожнай — талент меладыста, дар Божы, пра які словамі не раскажаш...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. МАЦЮША*

*Садружнасць, Супольнасць, Саюз*

# Дом дзеля жыцця,
## альбо Беларускі акцэнт у Смаленску

Час ад часу наведваю Смаленск, бо там у мяне блізкія родзічы. А нядаўна атабарыўся і яшчэ адзін сваяк, Генадзь Ш. Афіцэр расійскай ваеннай авіяцыі (прасіўся ў свой час у Беларусь, ды не пусцілі), ён выйшаў у адстаўку і ў Смаленску атрымаў кватэру. У новым доме. Пасля гарнізонных часовых "вуглоў" для нядаўняга вайскоўца гэта сталася вялікай радасцю. З імпэтам мой сваяк пачаў наводзіць бляск у сваім жытле. Тое ж рабілі і суседзі, таксама ў асноўным адстаўнікі. А вось на лесвічных пляцоўках гэтага прыгожала новага дома я ўбачыў тое ж, што і ў многіх нашых мінскіх "білдынгах": запэцканыя сцены, выбітыя шыбы ў калідорах, аплюгаўленыя мачой вуглы...

— Зграі нейкіх дзікіх падлеткаў, — амаль з адчаем патлумачыў сваяк. — Нап'юцца, нечага накурацца — і давай усё пэцкаць, ламаць у нейкім шаленстве. Па вечарах жыхары сядзяць па сваіх кватэрах і баяцца высунуцца за дзверы. Капіталізм гэтак дзейнічае, ці што?

Смаленскія знаёмыя інтэлігенты тлумачаць цяперашні падлеткавы агрэсіўны вандалізм няпэўнасцю нацыянальнай перспектывы ў Расіі. Рускім, кажуць яны, тэрмінова патрэбна агульнацыянальная ідэалогія, якая змагла б аб'яднаць расійскае грамадства. Трэба мэта жыцця. Іначай людзі і далей будуць адчуваць сябе бы ў загоне, з якога трэба вырвацца, а таму панікаваць, мітусіцца і крышыць усё навокал. Вар'яцкія паводзіны падлеткаў, якія збіваюцца ў агрэсіўныя зграі, — толькі люстэрка таго, што адбываецца ў душах дарослых.

— Рускім? — пытаюся. — А як з астатнімі народамі Расійскай Федэрацыі?

— Складанае пытанне, — казалі мне. — Відаць, ім давядзецца ўрэшце стаць рускімі.

— Ці рускім — расійцамі?

— Магчыма, — кажа яшчэ адзін суразмоўца, больш скептычна настроены. — Толькі гэта куды складаней. У любым выпадку трэба ставіць свечку імператару Аляксандру Другому, якому хапіла розуму прадаць Аляску, а не то цяпер нашым хлопцам давялося б ваяваць з алеутамі за іх шчаслівае ў будучым жыццё ў імперыі.

— А што, беларусы сапраўды прагнуць далучыцца да Расіі? — неаднойчы пыталіся ў мяне.

— Ды хто як, — кажу. — Бо гэта ж сапраўды так. Не кожны ж у нас разумее, што значыць у перспектыве быць "почти русским" у сваім жа доме.

Што да смаленскіх беларусаў, то свядомая частка іх досыць балюча ўспрымае наша таптанне-хістанне і дзіўны па цяперашнім часе гандаль незалежнасцю. Бо гэта прыніжае і асабісты імідж нашых суродзічаў у блізкім замежжы.

А раней беларусаў у Смаленску цанілі досыць высока. Не за нейкую там ажно цяпер анекдатычную памяркоўнасць і рахманасць, а якраз за цвёрдасць характару, стрыманасць, гаспадарлівасць, увогуле ўмельства якасна і ўпарта рабіць справу, у тым ліку і кіраваць прадпрыемствамі. У гэтым сэнсе іх ставілі ўпоравень з прыбалтамі. Таму шмат хто са смалян адкрыта ганарыўся сваімі беларускімі каранямі. Тут знаходзіла добры попыт і беларуская літаратура, асабліва гістарычнага плана.

Дарэчы, у Смаленску не дзіва пачуць у часе гаворкі людзей па вуліцах, у транспарце беларускі акцэнт, а то і нашы зусім не асіміляваныя слоўцы. Сустракаюцца яны і на самаробных шыльдачках гандлёвых палатак і невялікіх крам. Трывушчая яна ўсё ж, беларушчына!

Даволі многія смаляне, як я ўжо адзначаў, перажываюць за нас, бы за блізкую радню.

— Ведаючы, што я шчыры беларус, — кажа смаленскі інжынер Міхась Махнач, — знаёмыя раней часта прыязна абмяркоўвалі са мною пытанні беларуска-расійскіх дачыненняў. А вось цяпер, заўважаю, стараюцца такую тэму не закранаць, быццам саромеюцца. А ўвогуле, — зазначыў ён, — толькі незалежныя народы могуць па-сапраўднаму сябраваць і дапамагаць адзін аднаму.

Урэшце гэта працей прасачыць на ўзаемаадносінах невялікіх груп людзей. Тое ж на ўзроўні суседзяў па кватэрах. Ці зноў жа: вы, шаноўны чытач, асабіста вельмі імкняцеся мець агульную кухню на некалькі сем'яў? А жадаеце ліквідаваць дзверы і перагародкі паміж кватэрамі? А каб жыць усім-усім у адным вялізным доме — у гэткім гранд-білдынгу — вам дужа карціць? Не вельмі, праўда?

У той жа час уладальнікі асобных кватэр гатовыя на аднолькавых умовах (парытэтных пачатках) ствараць кандамініумы, адносна невялікія свайго кшталту камуны, асацыяцыі для сумеснай дзешавейшай эксплуатацыі і ўтрымання дома, для супрацьстаяння манапалістам-ЖЭСам. Мяркуецца, і праект закона "Аб сумесным домакарыстанні" будзе ў бліжэйшы час разглядаць наш Савет Міністраў.

Але ж ці спыніць гэта падлеткавы вандалізм у пад'ездах і на лесвічных пляцоўках? У нейкай ступені, магчыма. За кошт узмацнення аховы і больш надзейных (ці не сталёвых) уваходных дзвярэй. Тым не меней застанецца ўсё роўна самае галоўнае і небяспечнае на перспектыву — псіхічны дыскамфорт, адчужанасць, пачуванне выпадковасці, часовасці знаходжання на гэтай тэрыторыі, амаль ці не чужой і, відаць, горшай за тую, якую абяцаюць недзе там, у "светлай далечыні". Выходзіць, Дом, як месца пастаяннага пражывання пакаленняў для годнага зямнога жыцця, які трэба шанаваць, даглядаць, удасканальваць, такім чынам не пабудаваць? Проста не можа ён у чалавечым уяўленні быць беспамерным — "ад Брэста да Курыл". Гэта ўжо тэрыторыя для імперыі, звышдзяржавы. А для яе падтрымання, духоўнай счэпкі яе насельніцтва патрэбна адлаведная ідэалогія. Тым не меней, заўважым, — агульнанацыянальная. Вось і ў Расіі зараз узмоцнена яе распрацоўваюць. Значная група набліжаных да вышэйшай улады ідэолагаў неяк сутаргава займаецца мадэрнізацыяй ідэакратычнай па сваёй сутнасці мадэлі дзяржаўнасці. Значыць, зноў "візантыйскі" варыянт, аднаўленне ўсё ж Расійскай імперыі, дзе абавязкова павінен быць манарх, апора на адну дзяржаўную рэлігію ды прадвызначанасць "галоўнага народа" весці астатніх у "светлую будучыню"? Здаецца, мы гэта праходзілі.

Хаця здавалася б: а чаго б тады не садзейнічаць аб'яднанню і з Заходняй Еўропай? Бо была б яшчэ больш магутная "консолидация трудящихся". Не, нават інстынкт артадаксальных "новых бальшавікоў" падказвае: нельга аб'яднаць усё насельніцтва Зямлі ў адзін калгас, як бы не хацелася. Прырода-маці не дазваляе. Значыць, з "государственно-монополистическим капиталом" у звычную Расійскую імперыю?

Між тым, тая ж прырода чамусьці спрыяе, каб у народзе, з'яднаным у канкрэтную нацыю, колькі б ні знішчалася душ у нейкіх войнах ці стыхійных бедствах, усё роўна, як толькі пачынаецца ўзнаўленне насельніцтва, колькасць воінаў, мастакоў, паэтаў, людзей рознага характару і розных здольнасцей аднаўлялася, вярталася да пэўнай, неабходнай для выжывання этнасу прапорцыі. Іншая справа, што аднаўляюцца агульныя суадносіны, а не ранейшая персанальная непаўторнасць жыцця, якасць. Вось якасць давядзецца ўдасканальваць упартай працай не аднаго наступнага пакалення. Гэта пры спрыяльных умовах.

У сваю чаргу натоўп, маса, якімі б велізарнымі ні былі, здольныя пладзіць хутчэй хаос ды ўсё большую колькасць прыстасаванцаў, жулікаў, бандытаў і псіхічна хворых, у тым ліку наркаманаў і алкаголікаў. Апошніх, дарэчы, у нас, па звестках, ужо налічваецца да 10 працэнтаў. Крытычнай жа мяжой генетычнай бяспекі для нацыі лічыцца 3 працэнты ад колькасці насельніцтва.

А цяпер давайце згадаем: якія заходнееўрапейскія краіны самыя дагледжаныя і прыстасаваныя для годнага чалавечага жыцця? Краіны, дзе ходнікі мыюць шампунем, а на падваконнях чысценькіх лесвічных пляцовак жылых дамоў стаяць вазоны з кветкамі. Правільна — малыя краіны.

Увогуле, пакуль "акулы капіталізму" разам з бальшавікамі-звышінтэрнацыяналістамі мараць, каб загнаць народы ў звышдзяржавы, у Заходняй Еўропе паціху шырыцца рух за пераўтварэнне занадта вялікіх і таму груваcткіх дзяржаў у малыя. У сродках масавай інфармацыі Англіі з'явіліся паведамленні аб ініцыятывах грамадзян па захаванні акаляючага асяроддзя шляхам падзелу краіны на "біялагічныя рэгіёны", што нагадвалі б па сваёй будове швейцарскія кантоны-камуны. Англійскі даследчык Нікалас Элберы, па прафесіі псіхатэрапеўт, выдаў кнігу пад кідкаю назвай "Як выратаваць свет", дзе развівае канцэпцыю, што "прыгожае — у малым". У яго, на здзіўленне іранічным журналістам, знайшлося нямала прыхільнікаў, якія перакананыя, што чым большая дзяржава, тым горш у ёй жывецца простаму чалавеку, тым большая адчужанасць народа ад уладаў. Апытанне грамадскай думкі паказала, што палова маладых брытанцаў упэўнены: няма нічога больш далёкага ад іх, чымся ўрад, дзяржава, розныя афіцыйныя ўстановы і іхняе чынавенства. На думку Элберы, самае лепшае, калі насельніцтва краіны не будзе перавышаць 12 мільёнаў чалавек. Дзяржава павінна дзяліцца на раёны-камуны з колькасцю насельніцтва да 5 тысяч чалавек, а 20 такіх раёнаў павінны састаўляць кантон са сваім міні-парламентам. Нямала людзей з такімі настроямі групуюцца вакол "зялёных" — змагароў за ахову прыроды. Гэтая ідэя таксама падабаецца і брытанскім язычнікам — іх каля 200 тысяч, адзін з лідэраў якіх — зноў жа псіхатэрапеўт — Руфус Оўклі перакананы, што гэта адзіны шлях вярнуць уладу самому чалавеку.

Ну, але ж гэта — у добраўпарадкаванай Вялікай Брытаніі. А нам як быць?

Мы хаця б нагадаем сабе, што ў Беларусі — крыху больш за 10 мільёнаў насельніцтва. Мы, па заходнееўрапейскіх мерках, сярэдняя краіна. Здаецца б, жыць-пажываць ды дабро нажываць. Дык жа — не...

**Эрнест ЯЛУГІН**

ЭКСЛІБРЫС

# Гімназія ў Брэсце

*М. Монтвилов. Русская гимназия в Бресте на Буге. 1919—1939 г. Нім—Брэст—Мінск.*

**Якіх толькі цікаўнасцяў не было на нашай зямлі. Вось, аказваецца, як я даведаўся з гэтай кніжкі, пры паляках у Брэсце на працягу ўсяго часу польскай акупацыі існавала... руская гімназія. Больш за сто гадоў расійскай прысутнасці на Беларусі пакінулі ў Брэсце вось такі аскабалак імпершчыны.**

**Аўтар аб'ектыўна гаворыць, пра тое, што "выхаванцы яе былі ў асноўным карэннымі жыхарамі". Але, спрабуючы абгрунтаваць даволі няпэўнае права на існаванне гімназіі, аўтар, сам выхаванец гэтай гімназіі, прыводзіць у доказ нават "фізіка-геаграфічны аспект": "Брэст і яго вобласць — гарманічная частка сярэднерускай раўніны, заходняя акраіна яе". Ён відавочна перабірае, калі гаворыць, што тут "той самы, што і ў Расіі, жывёльны і раслінны свет", забыўшыся ці не заўважыўшы зубра.**

**Чым жа займалася руская гімназія ў Брэсце? Аўтар шчыра піша: "Усе 20 год свайго існавання яна выхоўвала даверанаю ёй моладзь у рускім нацыянальным духу, у любові да Расіі, да рускага народа і яго культуры". Асноўнай ідэяй выхаваўчай работы гімназіі была "ідэя адзінай і непадзельнай Расіі". Парадаксальна, але такая "расійская" дзейнасць гімназіі на беларускіх землях была выгадная палякам, пра што зноў жа шчыра піша аўтар: "польскі ўрад трываў да пары да часу гэты рускі нацыяналізм гімназіі, як пэўнае супрацьяддзе... супраць сепаратысцкіх плыняў украінцаў і беларусаў, у дадзеным становішчы больш небяспечных, з пункту гледжання палякаў, чым "неабгрунтаваныя мары" рускіх нацыяналістаў аб адраджэнні Вялікай Расіі".**

**Пэўных поспехаў у працы па русіфікацыі беларусаў, можна лічыць, гімназія дасягнула. Так, напрыклад, "Рускае таварыства моладзі" ў Польшчы ўзначальваў выпускнік берасцейскай рускай гімназіі з "истинно" рускім прозвішчам С. Трыбух, а фінансава дапамагаў выданню гэтай кніжкі Епіскап Бастонскі РПЦ за мяжой Мітрафан Зноска. І, тым не менш, апісваючы палітычныя зацікаўленні гімназістаў, аўтар вымушаны прызнаць, што: "большасць з вучняў задавальнялася мясцовым і нават местачковым патрыятызмам". І болей за гэта: "У 1927 г. Польская паліцыя раскрыла сярод вучняў рускай гімназіі камуністычную ячэйку, — ці то "Беларускай Грамады", ці то проста КСМЗБ".**

**Увогуле-то, лёс нацыянальнай гімназіі, у якой не была зацікаўлена дзяржава-маці, у дадзеным выпадку савецкая Расія, быў даволі незайздросны. З сумам згадваеш пры гэтым нашыя сучасныя беларускія школкі ў Вільні, класы ў Вісагінасе, Рызе, беларускую адукацыю на Беласточчыне. Калі тут, на Беларусі, супраць беларускай школы поўным ходам ідзе сапраўдная ўзаконеная вайна, ім там цяжка. Ворагі беларушчыны добра разумеюць: хочаш знішчыць нацыю — забяры ў яе нацыянальную адукацыю. Калі ж гэта зразумеюць і самі беларусы?**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## Да Купалавых угодкаў

**Сёлета Беларусь адзначае 115-я ўгодкі народзін слыннага сына зямлі беларускай, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Купалаўскія дні звычайна пачынаюцца напрыканцы сакавіка, крочаць, набіраючы сілу, па беларускай зямлі аж да Каласавін, што ладзяцца ў верасні-кастрычніку. Апагей свят прыпадае на чэрвень-ліпень — на дзень нараджэння паэта і Купальскія дні. Святы паэзіі самабытна і цікава праходзяць у філіялах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы — Вязынцы, Ляўках, Акопах. Купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Вязынка" сёлета адзначае свой 25-гадовы юбілей. Тут пройдзе Рэспубліканскае свята паэзіі. Філіял "Ляўкі", што на Аршаншчыне, адзначыць сваё 20-годдзе. Акопы, на Лагойшчыне, — гэтая творчая калыска песняра, дзе нараджаўся паэтычны геній Купалы, — свой 5-гадовы юбілей. Тут у траўні пройдзе І-ы Міжнародны фотапленэр "Па Купалаўскіх мясцінах". Традыцыйнае гарадское свята паэзіі "Палымянае слова паэта", якое наладзіць Мінскі гарвыканкам сумесна з музеем, пройдзе ў парку імя Янкі Купалы ля помніка песняру. Да купалаўскага юбілею вядзецца работа па стварэнні чацвёртага філіяла музея "Яхімоўшчына" на Маладзечаншчыне. Тут з восені 1906 года па восень 1907 працаваў Янка Купала памочнікам вінакура на бровары. У гэты час паэтам напісаны цэлы шэраг вершаў "Ворагам Беларушчыны", "З песень нядолі", "Дайце мне волю", "Не тужы", "Што ты спіш?", "А хто там ідзе?", "Гэта крык, што жыве Беларусь" і інш. У гэтых найпрыгажэйшых мясцінах захаваліся кантора бровара і хата, у якой жыў Янка Купала. Пасля плануемага адкрыцця філіяла і аднаўлення сядзіб з'явіцца магчымасць прыцягнуць у Яхімоўшчыну турыстаў, адкрыць новы маршрут у купалаўскія мясціны.**

**Л. ДАВІДОЎСКАЯ**

## Пад вокладкай — дзесяць п'ес

**У Мазырскай аб'яднанай друкарні пабачыў свет зборнік п'ес Васіля Ткачова "Сівы бусел". У ім змешчаны дзесяць лепшых твораў гомельскага драматурга: "Сівы бусел", "Вокны", "Кветкі-ягадкі, альбо Курорт для зайца", "Лесвіца", "Блакада ў Кругліцы" ("Усміхаўся месяц белай вішні"), "Шкірдзюкі займаюць абарону", "Стары і дарога" і іншыя.**

**Кніга "Сівы бусел" выйшла ў свет дзякуючы таму, што на прэм'еры спектакля "Усміхаўся месяц белай вішні" прысутнічаў тэатрал — бізнесмен. Спектакль яму спадабаўся, і ён вырашыў пазнаёміцца з аўтарам бліжэй. Гэтае знаёмства і прывяло да выдання кнігі, аддрукаванай накладам — 1000 асобнікаў.**

**У. ЖЫТНІКАЎ**

## Ліцэй аб'явіў набор

**Ліцэй Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра аб'яўляе набор навучэнцаў у 8 (гуманітарны) і 10 (гуманітарны і правава-эканамічны) класы. Набор праводзіцца на конкурснай аснове. Асноўная мова навучання — беларуская. Навучанне ў ліцэі бясплатнае.**

**Для ўдзелу ў конкурсе абітурыенты павінны прадставіць: заяву, ведамасць паспяховасці або пасведчанне аб базавай адукацыі, медыцынскую даведку па форме 286.**

**Прыём дакументаў праводзіцца: у 8 клас — да 26 мая 1997 г., у 10 клас — да 27 чэрвеня 1997 г.**

**Абітурыенты здаюць наступныя экзамены:**

**Беларуская мова — дыктоўка альбо твор (на выбар), гісторыя Беларусі — пісьмова (для правава-эканамічнага накірунку — матэматыка), замежная мова (вусна), сумоўе.**

*Заявы падаваць на адрас: г. Мінск, вул. Кірава, 21, прыёмны пакой. Даведкі па тэлефонах: 227-32-77, 226-10-73.*

МАЙСТРА

# Ведае танца сакрэты

У гэтага ветэрана культуры — адметны лёс. Ён больш за трыццаць гадоў нязменна служыць традыцыйнаму беларускаму харэаграфічнаму фальклорнаму мастацтву. І як служыць! Калі хто хаця раз пабачыць яго на сцэне, — назаўсёды застанецца зачараваным яго майстэрствам.

— У яго — самабытны прыродны талент. Ён дзіця палескай прыгажосці. Таму ягоныя пастаноўкі натуральныя і паўнакроўныя, — зазначае пра балетмайстра Міколу Котава прафесар, доктар мастацтвазнаўства Ю. Чурко.

— Адметная яго рыса: як мага больш назапасіць з фальклорнай спадчыны — асновы для стварэння непаўторных, яркіх харэаграфічных малюнкаў на сучаснай сцэне, — пацвярджае мастацкі кіраўнік і галоўны балетмайстар ансамбля "Харошкі" В. Гаявая.

— Ён дасканала ведае таямніцы народнага масавага танца, гэта дае яму магчымасць не парушаць яго гармонію і чысціню, — дадае галоўны балетмайстар Акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча В. Варановіч.

— Мне імпануе яго незвычайная харэаграфічная лексіка. Ён вельмі паважлівы да аўтэнтыкі і асцярожна-ўдумлівы пры адборы мастацкіх фарбаў даўніны, што робіць ягоныя пастаноўкі запамінальнымі, адметнымі, — разважае мастацкі кіраўнік ансамбля "Свята" В. Купрыяненка.

— Мікалай Котаў дасканала ведае беларускае народнае харэаграфічнае мастацтва і ўмела аранжыруе яго з вялікім прафесійным густам, — гаворыць старэйшы беларускі харэограф Л. Алексютовіч.

І сапраўды, Мікалай Котаў, бадай, адзін з самых працавітых у рэспубліцы балетмайстраў. На яго творчым рахунку больш за сто арыгінальных аўтарскіх пастановак народна-бытавых танцаў і карагодаў, традыцыйных свят і рытуальна-абрадавых відовішчаў, каля тысячы канцэртных выступленняў у розных кутках былога Саюза і далёкага замежжа.

Чатыром самадзейным калектывам пад ягоным кіраўніцтвам нададзены ганаровыя званні народных і ўзорных. А цяпер ён працуе на поўную сілу кіраўніком Нацыянальнага ансамбля "Вячоркі" Беларускага саюза фалькларыстаў і балетмайстрам дзіцячага фальклорнага ансамбля "Дударыкі" Мінскай нацыянальнай гімназіі. І яшчэ пяці самадзейным калектывам аказвае пастаянную дапамогу ў распрацоўцы рэпертуару і канцэртнай дзейнасці.

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч у свой час зазначыў пра Міколу Котава: "Шмат-шмат разоў бачыў яго на сцэне — і кожны раз успамінаў несмяротнага Ігната Буйніцкага. Котаў не толькі выдатны артыст, але і стваральнік і кіраўнік некалькіх танцавальных фальклорных калектываў. Вельмі крыўдна, што такі таленавіты чалавек маральна не падтрыманы дзяржавай".



Ці дачакаецца майстар афіцыйнага прызнання?

**Адольф СУРЫНОВІЧ,**
**адказны сакратар**
**Беларускага саюза фалькларыстаў**

*Фота У. КАВАЛЬЧУКА*

# Што ж гэта было?

***"Хацеў бы ў адзінае слова..." Сказаўшы некалі гэтак, паэт нібыта выдаў індульгенцыю ўсім, хто марна пакутуе ў пошуках "адзінага слова". І я мушу пакорліва далучыцца да тых шматлікіх пакутнікаў. І прызнаць, што не ведаю... Не ведаю адказу на пытанне, якое сама ж зрабіла загалоўкам. Не знайшла вызначэння для той няўгледнасці, праз якую звычайны камерны канцэрт стаўся надзвычайным з'явішчам.***

Дый ці ёсць яно, "адзінае слова", у якім згукнуліся б здзіўленне, узрушанасць, палёт фантазіі, удзячная радасць, асалода адкрыцця? Усё і пачыналася са здзіўлення. Сам артыст, для якога гэта быў першы сольны канцэрт у Мінску, не чакаў, што ягонае выступленне выкліча такую цікавасць, амаль "аварыйны" наплыў публікі ў камерную залу на Залатой Горцы. Многія меламаны тады вымушаны былі проста застацца на вуліцы: ні філарманічных білетаў, ні "запрашалак" на прыстаўныя крэслы для ўсіх не хапіла.

Гэта быў яго першы сольны... Але назваць той канцэрт дэбютам нейк не выпадае: лаўрэат міжнароднага конкурсу Уладзімір Буры — імя вядомае. Некалькі гадоў іграў ён у знаным Ансамблі салістаў "Класік-Авангард", і голас ягонай флейты расчульваў, хваляваў, заварожваў не адно трапятлівае сэрца. Яго вабіў чын сольнага выканаўцы. Ягонай творчасці замінала праблема набыцця прыстойнага інструмента (музыканты дзівіліся, якім чынам удаецца У. Бураму дасягаць незямнога гучання, трымаючы ў руках састарэлы інструмент-"інвалід"). Ён урэшце пайшоў з ансамбля і, здавалася, некуды знік... Стоп! Што значыць — знік? Сяды-тады я сустракала Валодзю ў філарманічнай зале (ён адзін з нямногіх нашых музыкантаў, хто даволі рэгулярна бывае на канцэртах). ! аптымістычным ягоны настрой тады не падаваўся. Але доўга пачувацца "ніяк" і займацца "нічым" творчы чалавек не можа. І аднойчы на свае пытанні пра справы-заняткі я пачула досыць упэўненае: "Калі ў мяне штосьці ў хуткім часе адбудзецца, — запрашу".

Знайшоў, запрасіў — і здзівіў! Вядучы канцэрта Уладзіміра Бурага, уражаны нечаканым натоўпам ля ўвахода і аншлагам у зале, адкрыў праграму такой фразай: "Мінчане згаладаліся па добрай камернай музыцы". Мо й праўда? Як слухалі, як прымалі! І гэта былі не калегі-музыканты, бо... як жа заўзята пляскалі ў ладкі нават між часткамі твораў! Пакуль спадар Шаліхін не нагадаў, як трэба ўспрымаць цэласны, хаця і шматчасткавы, твор.

А музыка гучала прыгожая. Выкшталцоная. Калі сказаць — Саната французскага кампазітара Лае для флейты і баса-канцінуо ў 4-х частках, гэта наўрад ці выкліча ў каго з вас цікавасць. Скажу інакш: гучаў амаль вакальны дуэт флейты ды віяланчэлі, працяты мігатлівымі шолахамі-сполахамі клавесіна. А ў Санаце Карла Філіпа Эмануіла Баха віяланчэль ды клавесін з "групы падтрымкі" саліста спакваля перайшлі ў роўныя партнёры! Дарэчы, у спадара Бурага партнёры былі выдатныя: лаўрэаты міжнародных конкурсаў віяланчэліст Аляксей Афанасьеў і піяніст (партыя клавесіна) Ігар Алоўнікаў, які выступіў і сола, з Ля мінорнай санатай К. Ф. Э. Баха.

А ўсю другую палову вечара ў зале цараваў дуэт Уладзіміра Бурага і піяністкі Юліі Клімянковай. Фантазія для флейты і фартэпіяна Габрыэля Фарэ; Саната Франсіса Пуленка... Прыгожая, разнастайная, захапляючая музыка! Гэткая **гульня гукам**, гэткі **маленькі аркестрык пачуццяў**, дзе ёсць энергія рамантычнага палёту, высакароднасць тугі, жыццядайны бляск гумару. А гэты подых пяшчоты і смутку — праз сагрэтую дыханнем флейту — у вядомай сольнай п'есе Дэбюсі "Сірынка" (больш распаўсюджаная назва "Сірынкс").

І нарэшце — неўміручае і вечна свежае, крохкае, кранальнае, пранізліва-журлівае стварэнне: "Мелодыя" з оперы Глюка "Арфей і Эўрыдыка"... Мне падалося ці гэта праўда? Так, праўда: зусім непадалёк, цяжка ўздыхнуўшы, заплакала жанчына. Яна ўстала, прайшла назад, прытулілася ў кутку, стрымліваючы галасныя ўсхліпы. У літаральным сэнсе давесці слухача да слёз, аказваецца, здатны не толькі пеўчы голас героя вядомай Андэрсенавай казкі...

Артыст іграў на "біс", развяваючы смутак імклівым лёгкім "Тамбурынам" Гасека, прасвятляючы душу маліtоўным напевам "Ave Maria" Баха—Гуно. Чула падтрымлівала яго канцэртмайстар (філарманічны дэбют Юліі Клімянковай не прайшоў без увагі дасведчанай публікі). Зала падтрымлівала — горача: "класічнымі" воклічамі, громападобнымі авацыямі. Кветкамі.

І мала хто ў зале ведаў, што першаму сталічнаму канцэрту Уладзіміра Бурага папярэднічала напружаная гастрольная праца. Разам з Юліяй павандраваў ён па Беларусі, збіраючы сваімі выступленнямі



поўныя аўдыторыі — у школах, музычных вучэльнях, дамах культуры. Мала хто ведае і сёння, што бліскучы сталічны флейтыст уладкаваўся на працу ў гасцінную Магілёўскую абласную філармонію, мае там канцэртную "норму", якую з імпэтам і захапленнем выконвае: вось адкуль гастрольная практыка. І мала хто дасць веры, што настрой флейты Уладзіміра Бурага залежыць ад яго ўласнага настрою, але ягоны настрой падуладны зусім не яму, а той вышэйшай сіле, якая "над". Не ён — той выканаўца, што прымушае халодную флейту прачнуцца-збудзіцца, заспяваць душэўна і натхнёна. Ён — толькі пасрэднік, праз якога ўсяляецца ў гэту "музычную палачку" чарадзейны творчы дух.

У адзін са снежаньскіх вечароў Уладзімір Буры выступіў яшчэ раз — і тамсама, і амаль з той жа (хаця змены былі) праграмай. На жаль, я з'ехала ў камандзіроўку. Таму толькі потым, паслухаўшы "аповед відавочцы", дазналася-парадавалася: усё было, як у першы раз. Шматлікія гледачы, авацыі прыхільнікаў, натхненне і ўзаемнае — артыста і публікі — жаданне сустрэцца зноў...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

ЛіМ ЧАСАПІС

## У музеі сучаснай скульптуры



**Персанальная выстава беларускага скульптара Эдуарда Астаф'ева адкрылася ў музеі сучаснай скульптуры імя А. Бембеля ў Мінску.**

**Скульптар працуе амаль ва ўсіх жанрах: партрэт, дэкаратыўныя творы, мемарыяльныя дошкі, станковыя кампазіцыі. Апошнія гады Эдуард Астаф'еў шмат працуе ў жанры малых пластычных форм. Асноўная тэма яго работ — жаночыя вобразы ў скульптуры.**

**Летась у Празе быў устаноўлены помнік Францыску Скарыне, аўтарам якога з'яўляецца мінскі скульптар Эдуард Астаф'еў.**

*На здымку: вядомы беларускі паэт Генадзь Бураўкін на выставе ля свайго скульптурнага партрэта.*

*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

## Выкладчыца і мастачка



**У Віцебску адкрылася персанальная выстава работ выкладчыцы сярэдняй школы N 3 Таццяны Беразоўскай. На суд гледачоў яна прадставіла 75 графічных твораў.**

*На здымку: Таццяна Беразоўская.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## "Тэатральная творчасць", N 2

**"Новыя прыгоды Несцеркі" — так называецца камедыя ў васьмі карцінах Уладзіміра Бутрамеева, якой адкрываецца нумар часопіса. У лістападзе мінулага года Беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа адзначыў свой 70-гадовы юбілей. З гэтай нагоды чытачам прапануюцца нататкі Тамары Гаробчанкі "Калі адшумелі апладысменты". Вераніка Козел у артыкуле "Жорсткі баль прывідаў і ценяў" разважае пра новую работу Купалаўскага тэатра "Смерць Кандзіда Тарэлкіна". Васіль Жуковіч у матэрыяле "Смех — не толькі забава" аналізуе пастаноўку "Пінскай шляхты", зробленую рэжысёрам Рыгорам Баравіком у Рэспубліканскім тэатры юнага гледача.**

**"Пра артыста такой папулярнасці, якую меў Барыс Кудраўцаў, звычайна гавораць, што яна тлумачыцца яго прыроднай, ад Бога, чалавечай абаяльнасцю" — так пачынаюцца ўспаміны Барыса Бур'яна "Заглыбіць бы ў ролю думку сваю..." пра Барыса Кудраўцава. Ганна Герштэйн прапануе нарыс "Шляхі Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра Беларусі". Вольга Нячай у артыкуле "Аблiччы творцаў" знаёміць з сям'ёй артыстаў Уладзіміра Мешчанчука і Людмілы Кучарэнкі, а Яўген Міклашэўскі распавядае пра мастака Уладзіміра Гардзіенку. Чытачоў чакае працяг артыкула Ніны Карнеевай "Жыццё актрысы".**

# "Ключ" да таямніц славян

### З АЎТАРАМ КНІГІ "БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА: ПАЎДНЁВАСЛАВЯНСКІ КАНТЭКСТ" ГАЛІНАЙ ТВАРАНОВІЧ ГУТАРЫЦЬ ДОКТАР ФІЛАЛАГІЧНЫХ НАВУК АЛЕСЬ ЯСКЕВІЧ

**Алесь Яскевіч.** Вашу кнігу, Галіна Паўлаўна, пра неразгаданую ў сваіх гістарычных шляхах, тройчы пакутную Славію і месца Беларусі ў ёй, успрымаеш з зайздросным захапленнем, але ж і з немалой доляй дакору самому сабе. Гэтую працу, неабсяжную па часаваму і прастораваму ахопу, невераемную па выбіральнасці фактаграфічнага матэрыялу, павінны былі б выканаць найвопытныя даследчыкі, магчыма, калектыў, а цяжар паў, як нярэдка здараецца, на маладыя, кволыя жаночыя плечы. І двойчы прыемна, што вашае навуковае падзвіжніцтва, можна не тоячыся сказаць, увянчалася славістычным адкрыццём. А менавіта вельмі канкрэтным, уражваючым па сваіх нечаканых ідэях пацверджаннем-укладам у тэорыю культурна-гістарычных тыпаў, якія сёння не без падстаў лічацца "ключамі" да таямніц народаў і іх родных супольнасцяў. Хацелася б, каб непасрэдна ад вас чытач яшчэ раз пачуў, як вы трактуеце асаблівасць славянскага тыпу.

**Галіна Тврановіч.** Шчыра ўдзячная вам, Алесь Сямёнавіч, за добразычлівую зацікаўленасць маёй кнігай. Сапраўды, мне давялося мець справу з амаль неахопным матэрыялам, што, аднак, зразумелася тады, як адступаць ужо не выпадала.

Увогуле ў сучасным свеце адбываюцца ашаламляльна парадаксальныя працэсы! Блізка таму, што так званаму навукова-тэхнічнаму прагрэсу суджаны прама прапарцыянальны рэгрэс каштоўнасцей духоўных. Чым вышэй сягае чалавек у самых розных практычных сферах — нават да космасу дапяў — тым ніжэй западае ўзровень ягоных духоўных патрэб, адчуванняў. Культура відавочна набывае забаўляльны характар, становіцца індустрыяй пацехі. І ў дадатак да шэрагу элементарных праблем фізічнага выжывання чалавецтва апынулася перад пагрозай страты асабовасці, уніфікацыі аблічча цэлых народаў. У якой ступені датычыцца гэта славян? Наколькі праяўлены славянскі тып культурнага фарміравання? Ці ў сілах ён разумна процістаяць тэхнагеннаму наступу сучаснай цывілізацыі? Арэал еўрапейскай аседласці славян — усходніх, заходніх, паўднёвых — сведчыць пра тое, што нашы агульныя продкі былі шматлюдным, дынамічным народам. Лясная, палявая, рачная, марская, горная Славія!.. І паглядзіце, з якой унікальнай паслядоўнасцю разгортваецца гістарычны лёс славянства: найчасцей "з агня ды ў полымя", без віны вінаватыя ці, па словах сербскага акадэміка Прэдрага Палавэстры, "зло цярпі з-за боязі горшага". І як выразна выяўляецца ў гэтым поступу праз суцэльныя іспыты вернасць высокім ідэалам хрысціянства! Адпаведнасць яго, хрысціянства, славянскаму характару знайшла адбітак у цеснай знітаванасці гісторыі і культуры. Згадаем, напрыклад, спарадзіўшую шматвяковы фальклор і багатую літаратуру — Косаўскую Галгофу сербаў 1389 года. Змаганне тут ішло за "крыж святы", сімвал царства Хрыстова. Вялікі ліцвін-наваградзец Адам Міцкевіч падкрэсліваў у сваіх парыжскіх лекцыях, што менавіта славянскаму, асабліва косаўскаму эпасу належыць ідэя поўнага хрысціянскага самаадрачэння, якое вызначыла новы этап у сусветнай паэзіі і новае яе прызначэнне. Сербскі князь Лазар перад зямнымі дабротамі аддае перавагу смерці і царству Нябеснаму з яго вечнымі каштоўнасцямі. У асобе князя Лазара мы сутыкаемся з ужо выразна праяўленым этнічным архетыпам — квінтэсенцыяй глыбіннай сутнасці народа, якая арганізуе знутры падзейную канву гістарычнага часу. Ахвярнаму здзяйсненню на Косавым полі папярэднічала эпоха Няманічаў-цароў, якія былі іерэямі, асветнікамі, манахамі. Яны ўзвялі на сербскай зямлі 45 цэркваў і манастыроў! На адно чалавечае пакаленне раней за Няманічавага сына Растка — сербскага свяціцеля Саву — заманашыла ў Полацку юная князёўна Прадслава, наша святая апякунка Ефрасіння. У радаводзе князёў Вялікага княства Літоўскага мы маем тыпалагічны аналаг Няманічавага дынастычнага фенамена. Двойчы запрашаўся людам на вялікакняжацкі сталец са свайго манастыра Войшалк, сын Міндоўга. Трэба ўлічваць і тое, што Святое пісанне славяне, дзякуючы асветніцкай місіі салунскіх братоў Кірылы і Мяфодзія, атрымалі на сваёй мове пяццю стагоддзямі раней за народы Заходняй Еўропы. У горане найвысокай духоўнасці фарміраваўся славянскі тып культурна-гістарычнага развіцця! Пра ягоную жыццяздольнасць сведчыць тое, што насуперак страце дзяржаўнасці, забароне афіцыйнага ўжытку мовы, веравызнаўчаму ўціску — у XIX стагоддзі адбывалася славянскае нацыянальнае Адраджэнне. Бачыцца гэта зарукай таго, што і цяпер, напрыканцы тысячагоддзя трывушчы, цярплівы, шматпакутны славянін не згубіцца, не асімілюецца, а застанецца верным свайму спаконнаму архетыпу, бо на трывалым падмурку стаіць славянства.

**А. Я.** Дзіўна, разгадкаю славянскай душы цікавіліся многія, а да яе было так блізка, ідзі, можна сказаць, былі навідавоку. Славянскі тып, паводле вашае славістычнае формулы, выяўлены перш за ўсё трыадзінствам працэсаў: 1) этнічнага шляху; 2) яго выразнай народнай "архітыпізацыяй" у выглядзе ідэалізаваных гістарычных асоб і 3) адлюстраваннем гэтага самаруху нацыянальнага жыцця ў прафесійным мастацтве.

**Г. Т.** О, кожны народ уяўляе сабой вялікую тыпаяўгенічную таямніцу! І менавіта ўсведамленне згаданага вамі трыадзінства працэсаў дазволіла мне наблізіцца да больш-менш цэласнага асэнсавання "характару" славянства. Загадка яго, натуральна, ужо здаўна не абыдзена ўвагай. Славянскім эпасам, сербскім у прыватнасці, захапляліся Гётэ, Гердэр, Гегель, лічачы яго адной з буйнейшых з'яў эпічнай паэзіі пасля Гамера. А гэта ж сярэдняе звяно нашай трыады — ідэалізацыя гераічных, архетыпавых, менталітэтных пачаткаў як стэрэатыпа паводзін этнічнага соцыуму. І хай сабе неўсвядомлена, але шмат каго і, акрамя згаданых аўтарытэтаў, насамперш вабіла замацаваная ў слове адметнасць менавіта гістарычнага лёсу славян. Дасканаласць любога мастацкага тэксту залежыць ад праўдзівасці пачуцця, якім ён арганізаваны. Усё ўсур'ёз, не дапускаецца аніякай гульні ў мастацтве...

**А. Я.** Дарэчы аб методыках даследавання, у вашай манаграфіі тут шмат новага, самастойнага. Як я зразумеў, асноўны акцэнт вы робіце на супастаўленні літаратур як тыпаў.

**Г. Т.** Так, але тут, паважаны Алесь Сямёнавіч, дазвольце сустрэчнае пытанне. Як вы прыйшлі да ідэі "тыпу", не пабаімся сказаць, сапраўды вызначальнай катэгорыі кампаратывістыкі? Тым факусіруе ў сабе сутнасць з'явы, дазваляе абагульняць, узбуйняць матэрыял, каб, як вы пішаце ў "Балгарскай русістыцы" (Сафія, 1984, N 4), перайсці да другога этапу даследавання, пасля вывучэння канкрэтнага нацыянальнага матэрыялу — да супастаўлення, аперыравання суцэльнымі праекцыямі культур. Запомніўся гэты ваш артыкул.

**А. Я.** Калі я і прычыніўся да славістычнай метадалогіі, дык сапраўды гэта сталася міжволі. Доўгі час займаючыся тэорыяй перакладу, неўпрыкмет становішся славістам, прычым практычным, патрабавальным, неспакойным. Неспакой гэты выклікаўся тым, што ў перастварэнні з аднае мовы на другую пачынала знікаць нацыянальная самасць. І ўсё выразней адчувалася, што час упарадкавання ўнутранай метадалагічнай гаспадаркі ў тыпалогіі яшчэ ў самай пары. Выявілася, што ў ёй не стае спецыфічнай метадалагічнай адзінкі, так бы мовіць, тыпалагемы. Якая, як вы кажаце, факусіравала б, узбуйняла канкрэтны нацыянальны матэрыял, факты для наступнага, супастаўляльнага этапу даследавання. Да гэтай тыпалагічнай "прызмы"

БІБЛІЯФІЛ

# Гартаючы вечныя старонкі

Нашы продкі не знікалі бясследна. Скарбы, пакінутыя мінулымі пакаленнямі, і сёння з'яўляюцца для нас, нашчадкаў, невычарпальнай крыніцай ведаў пра гісторыю нашага народа, яго духоўнае жыццё.

Сапраўдны летапіс часу — кніга, рукапісная і друкаваная. Гэта ў ёй адлюстроўваецца памяць чалавецтва, гэта яна ёсць і будзе вечным яму помнікам. Кнігі, як і людзі, маюць свой лёс. Ён не быў літасцівы да беларускай кнігі, на працягу стагоддзяў яна панесла непапраўныя страты. А тое, што захавалася, раскідана па шматлікіх кнігасховішчах краіны і свету. Помнікі пісьменства сведчаць пра тое, што ў неверагодна цяжкіх гістарычных умовах народ здолеў захаваць родную мову, самабытную культуру, стварыць помнікі, якія маюць агульначалавечую каштоўнасць.

У бюлетэні "Новыя кнігі: Па старонках беларускага друку", 1996, N 11, які выдаецца Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, змешчаны бібліяграфічны агляд "Гартаючы вечныя старонкі", прысвечаны кніжным помнікам на Беларусі. Ён складаецца з наступных раздзелаў: "Рукапісная кніга", "Друкаваная кніга", "Даследаванне беларускага кнігадруку", "Гістарычныя беларускія кнігазборы".

Першы раздзел — пра гісторыю стварэння рукапіснай кнігі, якая з'явілася на тэрыторыі сучаснай Беларусі на рубяжы X і XI стст. Стварэнне славянскага алфавіта (кірыліцы) балгарскімі асветнікамі, братамі Кірылам і Мяфодзіем і стала той асновай, на якой узнікла славянская пісьменнасць — крыніца багацейшай культуры рускага, украінскага і беларускага народаў. Але рукапісная кніга на Беларусі пісалася не толькі на славянскай, але і на польскай, лацінскай, яўрэйскай мовах, рознымі алфавітамі, нават арабскім (т. зв. кітабы), што было абумоўлена рознымі веравучэннямі і шматэтнічнасцю насельніцтва.

Рукапісная кніга ствараласяў такіх цэнтрах старажытнай культуры, як Полацк, Тураў, Друцк, Пінск, Слуцк, Супрасль, Брэст, Наваградак, Мінск, Куцейн. Перапісванне кніг было справай даволі цяжкай і складанай, вымагала адукаванасці, вялікага майстэрства, цярплівасці — на адну рукапісную кнігу часам ішлі гады. Кожная кніга стваралася групай людзей: перапісчыкаў, мастакоў, пераплётчыкаў. Майстэрні для перапіскі і аздобы кніг — скрыпторыі — ствараліся ў буйных манастырах, пры княжевых дварах. Да XIV ст. рукапісы пісаліся на пергаменце (тонка выробленая авечая або цялячая скура), потым пачалі выкарыстоўваць паперу. Тэкст пісалі спецыяльнай палачкай — сцілом, потым гусінымі пёрамі. Чарніла гатавалася з чарнільных арэшкаў (нарасты на дубовым лісце), вішнёвага клею і мёду. Чорны або цёмна-карычневы колер чарніла трываў стагоддзі. Старонкі аздабляліся каляровымі загалоўкамі, літарамі з рознымі ўпрыгожваннямі, мініяцюрамі, застаўкамі, канцоўкамі. Дарэчы, абзацны радок і атрымаў назву чырвонага таму, што пачынаўся літарай чырвонага колеру. Вялікая ўвага надавалася вонкаваму выгляду рукапісных кніг. Пераплёт рабіўся з дошак, абцягнутых скурай, з цісненнем — бясколерным ці з пазалотаю. Часам дошкі "апраналі" ў шоўк і аксаміт, у аправу з золата ці серабра, інкруставалі каштоўнымі камянямі і эмалямі.

Першыя вядомыя на тэрыторыі Беларусі рукапісныя кнігі адносяцца да XI стагоддзя. Гэта "Тураўскае евангелле" і "Супрасльскі рукапіс".

Сярод старажытных рукапісных помнікаў уласна беларускай культуры важнае значэнне маюць летапісы і хронікі, якія з'яўляюцца каштоўнымі крыніцамі вывучэння мінуўшчыны Беларусі. Тэксты ранніх летапісаў (XII—XIV стст.) не захаваліся. Першым складзеным на беларускіх землях летапісным творам быў Полацкі летапіс. Час узнікнення, аўтар, змест і характар яго дакладна не высветлены (летапіс не збярогся) і вядомы па нешматлікіх прамых і ўскосных згадках у розных пісьмовых крыніцах.

У Смаленску ў канцы XV ст. быў перапісаны **Летапіс Аўраамкі** і, магчыма, знакаміты **Радзівілаўскі летапіс** (іншая назва — Кёнігсбергскі). Гэта летапісны звод XIII ст., які складаецца з "Аповесці мінулых гадоў" і "Летапісу за 1112—1206 гг.", прысвечанага гісторыі Паўночна-Усходняй Русі. Вядомы адзіны спіс канца XV ст., які ў XVI — 1-й пал. XVIII ст. захоўваўся на Беларусі. Пазней ён быў падараваны Б. Радзівілам бібліятэцы г. Кёнігсберга, адкуль у сярэдзіне XVIII ст. вывезены ў Расію.

Са з'яўленнем друкаванай кнігі кнігапісанне спынілася не адразу — рукапісная кніга існавала на Беларусі нават і ў XIX ст. І зараз у раёнах Беларусі, дзе яшчэ засталіся стараверы, можна знайсці ў карыстанні рукапісныя кнігі (часцей за ўсё XIX — пач. XX ст). Рукапісная кніга зрабіла вялікі ўплыў на наступнае развіццё друкаванай кнігі. Не на пустым месцы пачалося ў нас кнігадрукаванне, і беларускія першадрукі па сваім аздабленні і паліграфічным выкананні — у ліку лепшых тагачасных еўрапейскіх выданняў.

## Да дня нараджэння класікаў

**У выдавецтве "Юнацтва" накладам у 17 тысяч асобнікаў у серыі "Школьная бібліятэка" выйшла кніга "Родныя вобразы". У ёй змешчаны найбольш вядомыя творы класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Выданне прымеркавана да 115-годдзя з дня нараджэння народных песняроў. Укладанне твораў зрабілі С. Панізнік і Я. Хвалей. Аформіў кнігу мастак В. Сакалоў.**

## Вечар Максіма ў Чэрыкаве

**У памяшканні раённага Дома культуры прайшоў вечар, прысвечаны жыццю і творчасці Максіма Багдановіча. Залу запоўнілі школьнікі, гарадская інтэлігенцыя, пенсіянеры. Арганізатарамі вечарыны сталі гарадская арганізацыя ТБМ, цэнтральная раённая бібліятэка і раённы арганізацыйна-метадычны цэнтр народнай творчасці і культасветработы.**

**Пачаўся вечар песняй "Пагоня" ў выкананні Данчыка. А потым вядучыя вечара распавялі пра жыццёвы і творчы шлях паэта, прыводзілі цікавыя моманты з жыцця сям'і Багдановічаў. Гучалі вершы паэта, самадзейныя артысты танцавалі "Купалінку", "Лявоніху", плакала скрыпка ў руках выкладчыцы Чэрыкаўскай школы мастацтваў Марыны Раманавай...**

**Закончыўся вечар гэтак жа ўрачыста (зноў гучала "Пагоня") і з надзеяй, што ён станецца пачаткам ушанавання талентаў беларускага народа на чэрыкаўскай зямлі.**

**С. ХАХЛОЎ**

## "Полацак", N 3

**Выйшаў у свет чарговы нумар "Полацака" — выдання беларускага культурна-асветніцкага цэнтра (Кліўленд, ЗША). Часопіс адкрываецца артыкулам Юрыя Хадыкі "Беларуская нацыянальная ідэя на мяжы двух стагоддзяў". Пра Слуцкі збройны чын 1920 года, яго арганізатараў, маштабы і ягонае значэнне ў гістарычным лёсе Беларусі разважае Анатоль Грыцкевіч. "Вяртанне да песень маладосці" — так называецца артыкул Арсеня Ліса пра паэзію Анатоля Бярозкі. У рубрыцы "З архіваў КДБ" змешчаны "Дадатковыя паказанні Яўхіма Кіпеля". Петрашкевіч прапануе чытачам пачатак драмы "Меч Рагвалода", у якой выкарыстаны ўрыўкі са "Слова аб палку Ігаравым" у перакладзе Янкі Купалы. Масей Сяднёў друкуе старонкі з універсітэцкіх успамінаў "Сустрэча, якой я баяўся". З літаратурных твораў у "Полацаку" змешчаны вершы барда Алега Атаманава.**

## "Роднае слова", N 4

**"Каб вярнулася песня..." — гэта літаратурны партрэт Алеся Жука, зроблены Таісай Грамадчанкай. Уладзімір Конан у артыкуле "Я паціху песні сумныя пяю..." разважае пра цыклічную структуру лірыкі Максіма Багдановіча, а Любоў Тарасюк аналізуе лірыку кахання ў паэзіі гэтага ж паэта. Яе артыкул называецца — "Пад зоркай Венеры". У рубрыцы "Класікі і сучаснасць" выступае Валеры Максімовіч з даследаваннем "Купалаўская міфатворчасць і мадэрнісцкая паэтыка ў пачатку XX ст.". Іван Лепешаў прапануе "Паэтычныя мініяцюры ў фразеалогіі". "Зрячий посох", або Спроба прачытаць Ядвігіна Ш." — пачатак працы Марыі Верціхоўскай і Вольгі Цялковай. Побач — заканчэнне методыкі правядзення ўрокаў па вывучэнні ў VIII класе аповесці Васіля Быкава "Абеліск", якую зрабіла Вера Ляшук. Лявон Баршчэўскі працягвае знаёміць з нарысамі з гісторыі сусветнай літаратуры, а Таццяна Шамякіна — з культурай Індыі. У "Анталогіі беларускага раманса" — артыкул Віктара Скорабагатава "Помніш, калі я спаткаўся з табою..." пра рамансы Сымона Рака-Міхайлоўскага і Товія Шнітмана і некалькі твораў гэтых кампазітараў. Вера Буланда прапануе сцэнарый імпрэзы па творах Максіма Багдановіча "Будзь жа, век малады...". Пра вобраз вясны ў беларускім выяўленчым мастацтве разважае Надзея Усава ў артыкуле "Зазвіняць жалобна крыгі...". У традыцыйнай рубрыцы "Літаратурны ветразь" Міхась Скобла прадстаўляе Масея Сяднёва з яго новымі вершамі, а ў рубрыцы "Дзе льецца Нёман срэбраводны..." можна пазнаёміцца з творчасцю Яўгена Хвалея і Алеся Камароўскага.**

ПАЭЗІЯ

Сяргей ПАНІЗНІК



# Хочацца праўды прасветнае...

## Я — тут!

*За што, о Божа праведны, магутны,*
*Караеш так няшчасны свой народ?*
Янка КУПАЛА. 1912 г.

***Трымаю мукі Беларусі.***
***Які б не панаваў Статут,***
***на кліч суворы азірнуся:***
***— О Божа праведны, я — тут!***

***Застрашаны дыбее волас:***
***і за падумку ёсць прысуд?***
***Але прымаю строгі голас:***
***— Айцец Нябесны мой, я — тут!***

***Не аддаю даніну модзе —***
***набожнасцю ахутаць блуд...***
***А моўлю з хвілямі у згодзе:***
***— Мой Збаўца-Валадар, я — тут!***

***Я — тут, укленчаны на кару.***
***Гатовы, Светач, да пакут, —***
***каб толькі паратунак-мару***
***не выкінуць у чорны кут.***

***Каб толькі веру-спадзяванне***
***прыняў неабазнаны люд:***
***ён мае боскае прызванне***
***Народам быць, свой правіць суд.***

***О зжалься, Творца Найвышэйшы;***
***дай сілы выгадаваць цуд —***
***прызнанне: больш я не тутэйшы.***
***Тут — Беларусь. Таму я — тут.***

## "І к шчасцю масціці гасцінец..."

*"Тут ў 1916 г. служыў старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін беларускі паэт Янка Купала".*
З мемарыяльнай дошкі, устаноўленай на ст. Баравуха 17 траўня 1996 г.

***Лесарубы, шпалацёсы***
***шлях масцілі нам са скрухай...***
***Гадаваў Купала крозы***
***пад жывічнай Баравухай.***
***Ладзіў з глухасці дарогу,***
***вызнаваў шляхі на сёння...***
***І складаў радкі пра змогу,***
***словы песціў на насёны.***
***Тут пабраталіся шпалы...***
***Можна ў будучыню мчацца!***
***Хоча рэха дакрычацца***
***ў Баравусе да Купалы, —***
***праз усе лесапавалы***
***і прагалы і прагоны, —***
***каб напоўніць***
***шчасцем званым***
***апусцелыя вагоны.***
***Стаў Купала Баравусе***
***лесарубам будаўнічым...***
***...Расцяробнай Беларусі***
***сёння зноў яго прыклічам!***

## Намова

***Ад гулкага зазімку помню:***
***сыходзіла сонца з вачэй;***
***камель, пераломлены промнем,***
***ярчэй азначаўся, званчэй...***

***Ці сосны інелі, ці струны?***
***Не трэснуў камель. Не парваў***
***смалы рагвалодавы руны,***
***якімі мой дзень шчыраваў:***

***з камля і да кроны выводзіў***
***пісьмёны... Работы — гара!***
***Дзе верх, а дзе ніз у прыродзе?***
***А вокладка дрэва — кара?***

***І я, ненавучаны зроду***
***матляць, як ганчак, галавой,***
***вычытваў — паземна — прыроду,***
***гартаючы снежны сувой.***

***А трэба вышукваць рукамі***
***каравую памяць зямлі, —***
***і дрэва запіша кружкамі***
***мой летапіс: што, дзе, калі...***

***Пад вокладкай дрэва, пад броняй,***
***знайду пастарэлай вясной:***
***радок, пераломлены промнем,***
***рунічнай[1] цячэ баразной.***

## На зялёны святлафор

***Ля святлафораў-свечак***
***дарогу не студзі:***
***Зялёны чалавечак,***
***ідзі,***
***ідзі,***
***ідзі!***
***Ідзі — у свет замгнёны***
***на паварот-прывід:***
***папераздзе анёла***
***суцешны краявід.***
***Чакаецца сустрэча***
***папутнай дабрыні:***
***у вочы, чалавеча,***
***ты сам сабе зірні.***
***Развяжуцца заклёны,***
***асядзе снег маны...***
***На шлях вечназялёны***
***паклікаы з вясны,***
***ты здзіўленым павекам***
***затор не гарадзі:***
***Свабодным Чалавекам***
***ідзі,***
***ідзі,***
***ідзі!***

## Творца

Марыі ЗАХАРЭВІЧ

***Будзьце, Марыя!***
***Прамоўлю укленна:***
***— З Вамі я родны***
***па дзедавай вотчыне.***
***Мядзела рысы, ліцвінскія гены***
***не дазваляюць Вам быць на абочыне.***
***Ясь і Яніна — у памяці сэрца;***
***птушкі не змоўклі:***
***зноў плач перапёлачкі...***
***Вы — маладыя, пакуль аднаверцы***
***з Вамі — упобачкі,***
***з Вамі — упоручкі.***
***Будзьце, Марыя!***
***Прасветнае праўды***
***хочацца так,***
***як зацменнаму месяцу.***
***Перазімуем! На веснія грады,***
***як навасёлцы,***
***раскрыляцца вясніцы.***
***Будуць усхожымі думы-штодзённы,***
***будуць у Мядзела ночы празорныя.***
***Подзвіг — надзённы.***
***Ёсць талент казённы...***
***Творцы народа — як свет —***
***непаўторныя!***

## Відарыс

***Маладзік заліва —***
***ў халадзіне Юрмалы.***
***Юр малы — у ліва,***
***і ў балткрэва — юр малы.***

***Маладзік — падзіва.***
***Зоркі — парадзелыя.***
***Дзе ляжыць радзіма, —***
***сосны збарадзелыя.***

***След калялазовы***
***у пясок не точыцца.***
***Маладзік лязовы***
***хвалямі абточыцца.***

***Маладзік ільдзісты.***
***Юрмала — у шэрані.***
***Латы — на маністы.***
***Долары — для жэрабя.***

***Маладзік руплівы***
***абрастае наледдзю.***
***Я — вараг заліва***
***з цяжкай ношай памяці.***

[1] Runa (латышск.) — гаворка.

## Палуба Калумба

*Вярнуся да Калюмбаў маёй зямлі*
Янка ЮХНАВЕЦ

***На палубе Калумба***
***Пад ветразем надзей***
***Не напаткае згуба***
***Узлюбленых людзей.***
***Пад ветразем удачы***
***На палубе-крыле***
***Імчуся ў свет гарачы,***
***Дзе Воля — на чале.***
***І з-пад пякучых німбаў***
***Айчынных алтароў***
***Узношу да алімпаў***
***Паходні змагароў.***
***Жывіца родных зрубаў,***
***Праз акіян плыві!***
***На палубе Калумба —***
***Сцяг з рысачкай крыві.***
***Пад ветразем адчаю —***
***Ратоўныя кругі.***
***Сабою я злучаю***
***Двух сэрцаў***
***берагі.***
***Зямля — пярсцёнак злюбу.***
***Любоў — кальцо дарог.***
***Нам палубу Калумба***
***Стварыў лагодны Бог.***
***Пад ветразем натхнення —***
***Маёй душы працяг.***
***Амерыка — імгненне***
***На палубе жыцця.***
***Будзь, Новы Свет! Вярнуся***
***У пантэон дубоў.***
***Зноў ветразь Беларусі***
***Напоўніла любоў.***

***Мой мацярык — не клумба...***
***Перамагчы бяду***
***Наступнікаў Калумба***
***На палубе знайду.***

## Беларусам Латвіі

***Хоць на прамень,***
***але падрос мой дзень:***
***яго нагадавала***
***памяць долі.***
***І дзе не буду, —***
***на латышскім полі***
***у райнісаўскім сонцы***
***мой агмень.***
***"Прамень", "Світанак"...***
***Падужэў "Уздым"...***
***Яны сагрэюць беларусаў сэрцы.***
***Сіроткамі не быць:***
***вісіць вядзерца***
***вам, латышам***
***на вочапе адным.***
***Пратораны дарогі праз вякі.***
***Сябры!***
***Суседзі!***
***Свэйкі, сваякі!***
***Вам на дабрыдзень***
***слова пакідаю.***
***Дом Беларускі***
***зноўку прывітаю:***
***нас лучаць хвалі Даўгавы-ракі.***
***А вашы сэрцы —***
***долі маякі!***

ПРОЗА

Раіса БАРАВІКОВА

# КАХАННЕ ДЫСІДЭНТА

АПАВЯДАННЕ

...ЦЯЖКА ПАДНЯЛАСЯ з канапы, уражаная: да чаго б гэта? Гадоў дваццаць не сніўся і раптам з'явіўся ў сне, нібыта выплыў аднекуль, каб сказаць адну-адзіную фразу: "Я забяру ў цябе свой фотаздымак!"

Ягоны фотаздымак сапраўды быў у яе. Днямі наткнулася на яго ў альбоме, шукаючы свой. Наколькі памятае, ён не любіў здымацца, і гэтае фота было ў яго ці не адзінае, на ўсе выпадкі жыцця. Такое ж самае дзесьці напрыканцы шасцідзесятых яна бачыла ў вітрыне невялічкай "ксенгарні" на вуліцы Фоксаль у Варшаве. І гэты ж здымак гады тры таму назад прамільгнуў на экране тэлевізара па нейкай тэлевізійнай праграме ў чорнай рамцы: "У Швецыі, недалёка ад Стакгольма, у гарадку Н. памёр вядомы кінарэжысёр..." удакладніў тады дыктар, нібыта расшыфроўваючы ёй тую чорную рамку. І вось гэты сон. Навошта? Дзеля чаго? Падняла з падлогі п'есу, якую намервалася чытаць перад тым, як заснула. Спынілася позіркам на назве: "Уніз па рацэ, альбо Развітанне з радзімай"*. Можа, нейкім чынам гэты сон звязаўся з назвай п'есы, але да чаго тады тут яго фота?

На дзвярах вісела запіска, якую прымацавала дачка: "Ма, я пайшла на шэйпінг!" Ну, вось, праз якую гадзіну-дзве збяруцца яе хатнія, а яна пакутуе над гэтай фразай: "Я забяру ў цябе свой фотаздымак!" Як гэта ён можа яго забраць, — чалавек, якога не стала тры гады таму назад? Глупства нейкае! Проста глупства. А тым часам штосьці ў яе думках адкручвалася назад, да нейкага не зусім яшчэ выразнага "стоп!" Фотаздымак... Фотаздымак... Ага-а... Вось яно што !.

Яна лёгенька падымаецца па лесвіцы. Нарэшце дзверы з маленькай металёвай шыльдачкай: "Вадзім Ізмайлаў". Шукае ў сумачцы ключ і ніяк не можа знайсці яго. Дзесьці згубіўся. І Вадзіма цяпер няма. Якая роспач! Але на ўсялякі выпадак націснула на кнопку званка. І там, за дзвярыма, пачуліся крокі. Дзверы расчыніліся...

— Вадзя-я, — выдыхнула радасна. — А я згубіла ключ.

І адразу ж у пярэднім пакоі высыпала на падлогу ўсё, што было ў сумачцы, можа, усё-ткі ён знойдзецца? І ключ сапраўды знайшоўся. Усё, што высыпала, пачала запіхваць назад у сумачку.

— Што гэта ў цябе ў руках? — запытаўся ён.

— Фотакартка!

— Чыя?

Замялася:

— Ат... Валяецца! Знаёмы аднакурснік.

— Парві.

І яна парвала, хутка, на дробныя-дробныя шматкі. Ён прыціснуў яе да сябе. З нейкай сумнай іроніяй пасміхнуўся:

— Неразумніца... Я пажартаваў. Хіба ж так можна? Вось і маё фота калі-небудзь парвеш і выкінеш. Зробленае аднойчы мае схільнасць паўтарацца.

Яна расплакалася. Слёзы навярнуліся ў адначчассе.

— Гэта ж толькі аднакурснік. А ты... Ты... Я памру, як цябе калі-небудзь не стане. Я сапраўды памру. Ты не верыш?

...Сарвала з дзвярэй запіску дачкі. Незразумелае пачуццё гняло неймаверна. Туды-сюды пахадзіла па пакоі. Спынілася ля акна. На балконе ў гаршчэчках ад лета чарнелі даўно адвялыя кветкі. "Ляното ўжо нейкаю стала. Даўно трэба было выкінуць гэтыя высахлыя сцяблы!" І што ж такое на яе найшло? Ніяк не можа адкараскацца ад гэтага сну! Ну, прысніўся... І хай сабе. У яе, во-о, балкон непрыбраны. І п'есу трэба прачытаць да раніцы, а тут... Зараз пазбіраюцца ўсе: муж, сын, дачка. І ўжо ўвесь вечар трэба будзе круціцца: таму падай, таму паднясі, з тым пагавары. Узяла п'есу, прысела на канапу... Не, чытаць яна, відавочна, не можа!

Цікава, хто цяпер жыве ў той кватэры? Маленечкая "хрушчоўская" аднапакаёўка. Пісьмовы стол, кніжныя паліцы, камін з белай цэглы. Яна ўсё хацела паставіць на яго кветкі, звычайныя хатнія вазоны, ды так і не паставіла. Што цяпер з тым камінам? Можа, яго разбурылі, а, можа, паставілі кветкі? Ды якая ёй розніца! Каб на цяперашні розум, яна па-свойму абсталявала б там кухню. Замяніла б фіранкі. Жоўты колер не надта пасаваў да колеру сцен. Тую маленькую кухню яна любіла. Былі тыдні, калі яна была проста яе пакоем. Адно кепска, не было дзе прылегчы. Зрэдку нехта прыходзіў. Ну, скажам, Эдзік, знаёмы Вадзеў урач. Яна нібыта зноў апынулася там, за тым белым столікам. Насупраць сядзеў Эдзік.

— Ты толькі ўспрымай усё правільна, — гаварыў ён. — Тут нават не запой, а хвароба... Даўняя хвароба нашай інтэлігенцыі. У Вадзіма яна асаблівая.

Яна кіўнула галавой:

— Угу... За пяць дзён дзевятнаццаць пляшак "Вермуту". — Узяла з падлогі пляшку. — "Ружовы. Адзін рубель трыццаць пяць капеек"... Вадзя зусім слабы, ужо і ўстаць сам не можа.

— Я сёння ўкалю яму што-небудзь сардэчнае. Слухай, а ты кепска выглядаеш. Бледная! Магла б пакінуць яго аднаго на дзве гадзіны. Тут дзесьці паблізу кінатэатр... Паўсюдна ідзе прэм'ерны фільм "Белае сонца пустыні".

З пакоя пачуўся лёгкі шоргат, рыпенне канапы і хрыплае, ледзь чутнае, амаль неразборлівае:

***Девять граммов в сердце,***
***постой, не зови...***
***Не везет мне в смерти,***
***повезет в любви!***

— Прачнуўся! Я пайду да яго.

— Чакай... Калі б ты змагла ўгаварыць яго хоць што-небудзь з'есці, усё пайшло б на спад. Паспрабуй, га? Ну, хоць некалькі лыжак булёну.

— Зараз звару...

Потым яна сядзела перад Вадзем на старэнькай ледзь не правыленай канапе з міскай булёну. Каб яго не раздражняла святло, зацягвала акно цяжкой штораі і ўключала маленькі цьмяны начнічок, падарунак польскага пісьменніка, што адным з першых у тыя далёкія шасцідзесятыя выехаў у Ізраіль. Яна сама прывезла гэты начнічок з Варшавы.

— Вадзя... Вадзечка... Я ж адчуваю, ты не спіш. Расплюшчы вочы. Я табе булёну прынесла. Паеш. Прашу цябе.

Ён нязгодна паматаў галавой:

— Бр-р-р...

— Вадзь, ну, давай, зусім трошкі. Адну лыжачку. Тады я скажу табе, хто самы мудры, самы разумны.

Ён прыўзняў галаву, падаўся да яе. Булён праліваўся, але нешта ён праглынуў.

— Во і добра. А самы мудры, самы разумны ў нас Вадзя. Вадзім Ізмайлаў. Цяпер яшчэ адну лыжачку і я скажу табе, хто самы таленавіты. Вадзя... Вадзечка самы таленавіты. А самы прыгожы? Ну... Ну, яшчэ лыжачку!

Яна адставіла міску. На донцы засталося толькі трошкі варыва. На ягоным ілбе выступілі кропелькі поту, але твар памякчэў, разгладзіўся... Ён зноў спаў. І сон гэты быў доўгім. Але вось страпянуўся, уздрыгнуў...

— Што? — схілілася над ім. — Табе кепска?

— Прыбяры пляшку, — нечакана сказаў ён роўным ціхім голасам. — У мяне пачынаюцца кашмары. У сне. Ляж да мяне і раскажы што-небудзь цікавае, каб я не спаў.

— Я не ведаю, што расказаць.

— Што-небудзь. Можаш са свайго дзяцінства. Раскажы пра горад, дзе ты жыла раней. Я баюся заснуць...

Яна лягла побач і пачала расказваць, пакуль яе не зmарыў глыбокі сон. Але і праз сон адчула ягоны позірк на сваім твары. Расплюшчыла вочы.

— Які сёння будзе дзень? — запытаўся ён. — Чацвер? Зразумела. А дванаццатай калегія. Я павінен быць на студыі. Апошні шанц, што разгледзяць маю заяўку.

— Ты зможаш паехаць?

— Паспрабую. — І праз паўзу пацікавіўся: — Чым ты тут харчавалася?

— Ела катлеты...

— Я ж цябе прасіў... Гэты васьмікапеечны паўфабрыкат для мяне падыходзіць. А ты жанчына. Табе трэба есці натуральны прадукт. Нармальнае мяса, каб захаваць колер скуры на твары.

Яна паціснула плячамі, расшмаргнула штору, расчыніла фортку. Даўкае цяжкое паветра пачаў свідраваць скразняк. Досвітак толькі займаўся. Адзін за адным ішлі першыя тралейбусы.

— Навошта я табе? — пачула ягоны голас. — Я нічога не магу табе даць. Мне ўжо амаль сорак. Пакінь мяне. Я хачу, каб ты мяне пакінула.

— Ты гаворыш няпраўду, — падышла да яго. Абняла. Ён разняў яе рукі.

— Мне трэба памыцца. Цела, бы нераехалі. Ты зможаш мяне пагаліць?

— Думаю, што змагу.

Ён раптам заплакаў...

— Вадзя... Вадзечка...

— Я нават жанчыны ў табе не адчуваю. Ты — святая... Ты — больш, чым дачка, — і ён неяк няўклюдна ўклечыўся перад ёю, абняў яе калені. — Ты, сапраўды, мяне не пакінеш? Ніколі-ніколі?

...Яна чула, як у пярэднім пакоі звініць тэлефон. Апошнім часам нішто яе так не раздражняла, як тэлефонныя званкі. Але ўсё-ткі пайшла на званок. Трубку падняла дачка.

— Ты ўжо вярнулася з шэйпінгу?

— Як бачыш. Толькі што. Яшчэ не паспела зняць абутак, — і зноў загаварыла да некага ў трубку. Яна прайшла на кухню. Ну, усё! Хопіць. Пракляты фотаздымак! Трэба ж было заснуць на нейкіх паўгадзіны, каб пачуць гэтую недарэчную фразу! П'еса нячытана. Халадзільнік пусты.

— Ліна, мо збегаеш у магазін?

— Я званіла бацьку. Ён прынясе прадукты, — адазвалася дачка.

Потым прыйшоў з працы сын, папрасіў памыць кашулю. Да яе дадалося яшчэ нешта, і вось ужо ванны пакойператвараўся ў пральны.

— Ма, цябе да тэлефона! — зазірнула дачка.

— Хто?

— Не ведаю. Не назвалі сябе.

...Голас у трубцы сапраўды быў незнаёмы.

— Алена Хведараўна, прашу прабачэння, што турбую. Хацеў бы ўзяць у вас інтэрв'ю. Я яшчэ студэнт. Праходжу практыку ў штотыднёвіку "Культура". Шмат разоў бачыў вас у розных спектаклях. Вы мая любімая артыстка.

Яна не любіла даваць інтэрв'ю. Заўсёды атрымлівалася не так, як хацелася, з-за таго, што не ўмела расказваць пра сябе, ды і не было асаблівай ахвоты рабіць гэта. Але голас быў такі малады. Ну, вядома, студэнт-практыкант і, можа, гэтае інтэрв'ю першае ў ягоным жыцці.

— Мне хацелася б сустрэцца з вамі заўтра, калі можна. Вы не супраць? А якой гадзіне вам больш зручна?

— А дзевятай. — І дадала: — Прыязджайце да мяне дамоў. Думаю, што нейкую гадзіну мы зможам пагаварыць. Пасля адзінаццатай я ўжо буду занята. У тэатры першая чытка п'есы. Адрас? Запісвайце...

І пасля, позна вечарам, калі ўжо ляжала ў ложку і амаль дачытвала п'есу, яна чамусьці ў думках вярнулася да гэтага хлопчыка-практыканта. Нешта ў ім кранула яе: зусім яшчэ хлапечы голас ці прызнанне, што яна ягоная любімая артыстка? Як тут можна было адмовіць, расчараваць у лепшых парываннях?! "Ніколі не трэба расчароўваць людзей"... І бы спатыкнулася. Зноў Вадзім... Гэта ягоны выраз. Цікава, а што сталася з тою маленькаю шыльдачкай на дзвярах: "Вадзім Ізмайлаў"? Можа, яна і да гэтага часу знаходзіцца там, а гаспадары кватэры даўно іншыя? Не, Вадзім павінен быў адарваць яе, вырваць з дрэвам, каб ніякага следу... Штосьці тоненька зашчымела, насунулася. Перад ёю вымалёўваўся зноў той пакойчык...

— Я, відаць, усё-ткі з'еду. Мяне гатовы прыняць у Швецыі...

— Ты добра ўсё ўзважыў? — запыталася яна.

— У адказ мне хацелася б расказаць табе прытчу. Дык слухай. Да аднаго мудраца прыходзіць юнак і пытаецца: "Скажы мне, шаноўны, які ўрад самы лепшы?" Мудрэц трошкі падумаў і адказаў: "Той, што нічога не плаціць рознага роду творцам: пісьменнікам, мастакам, кампазітарам... за іхнюю працу". Юнак не зразумеў гэтых слоў, і мудрэц яму растлумачыў: "Іхнія творы бясцэнныя. Яны не маюць свайго сапраўднага кошту. Іх ацаніць можа толькі час". — "Але ж творцы жывыя людзі, — запярэчыў юнак. — Ім трэба нешта есці, купляць апратку і гэтак далей... Іншымі словамі, неяк жыць. Што ж рабіць у такім выпадку творцам?" Мудрэц падумаў і адказаў: "Змагацца з урадам!" Але я... Асабіста я... Вадзім Ізмайлаў, я ніякім чынам не змагаюся з ім! Гэта ўрад са мною змагаецца: ён перакрыў мне ўсялякі кісларод... Апусціў перада мною чырвоны шлагбаум, які ўжо ніколі не падымецца. І гэты ж урад рады мяне выпусціць куды заўгодна, толькі б мяне не было тут!

— Чаму ты так думаеш?

— Я не думаю, я ведаю. Гэтаму ўраду непатрэбны таленавітыя людзі. Таленавіты чалавек неардынарны, ён нязручны ва ўсіх адносінах. Ён хоча рабіць тое, што яму хочацца, а не тое, што прадпісана аднекуль зверху. Яго не прымусіш, з ім трэба лічыцца, трэба няньчыцца. Я не ўпісваюся ў гэты лад. Я не ўмею расказваць на кухні анекдоты пра абвешанага ордэнамі старца, і адначасова дзесьці там... на сваім службовым месцы выконваць ягоныя загады. А яшчэ лепш пад воплескі сабе падобных ствараць эпахальныя творы, за якія даюцца ордэны, прэміі, пасады... Гэтыя людзі навучыліся прыстасоўвацца. Папомніш, яны ўпішуцца ў любы час. Ген у іх такі, бальшавіцкі. Яны апраўдаюцца тымі анекдотамі: маўляў, мы ўсё разумелі, толькі чакалі зручнага моманту, каб усё перавярнуць з ног на галаву. Я іншы, даруй. У мяне адна магчымасць, — з'ехаць! Пакуль яшчэ выпускаюць.

— А я? Вадзя, як жа я? — яна нецярпліва камячыла краёк лёгкага халацік.

Ён адказаў не адразу, але, несумненна, быў гатовы да такога яе пытання.

— Ты вернешся да сваіх... — памаўчаў. — У цябе ёсць маці, бацька, малодшыя браты. Я не маю ніякага права рызыкаваць табою, таму што не ведаю, што ў мяне будзе там. Я буду, адно што, — вольны і не хачу ні ў чым падстаўляць цябе. Ты ж таленавітая, толькі трэба раскапаць гэты талент. Ты здолееш. Я не хачу, каб ты чымсьці ахвяравала, што дадзена табе Богам, дзеля мяне. — Ён зглынуў нейкі даўкі камяк. — Я стаў чалавек і ўсё гэта вельмі добра разумею.

Яна адчула, як падлога выслізгвае з-пад яе ног. Усё вакол рушылася, крышылася, абвальвалася...

Але свет не рухнуў. Раніца наступнага дня была лёгкай і прыўзнятай. Сын адмовіўся ад сняданка, папрасіў пяцьдзесят тысяч, якіх да нечага яму не хапала, і падаўся на працу. Дачка пайшла ў ліцэй. Муж абмежаваўся бутэрбродам і нечакана прапанаваў:

— У мяне сёння квартальная прэмія. У цябе роля ў новай п'есе, дык, можа, адзначым? Пасядзім вечарам у якім-небудзь прыгарадным рэстаране, трошкі расслабімся. Дзеці? Бог мой, яны дарослыя!

*(Працяг на стар. 14—15)*

**П'еса Алены Паповай*

ТЭАТР

# Дзеля душэўнай раўнавагі

***Гадоў пятнаццаць таму хваля цікавасці да архітэктуры вынесла ў Магілёў самога акадэміка Чантурыю з калегамі. Марку ВОЛАХАВУ, галоўнаму мастаку Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, яны паабяцалі даслаць праект тэатра для Магілёва, датаваны бурлівым 1929 годам. Даслалі! Тэатр — на 1200 месцаў. Імя Горкага. З сярпом і молатам. Калі ў мініяцюры (Марк Мікалаевіч перапрашае) — як грамадская прыбіральня. Дзякаваць Богу, што стары, стогадовы будынак тэатра не знеслі.***

— Але гэты намер — знесці — гадоў семдзесят цвяліў гарадское кіраўніцтва, — Марк Мікалаевіч прыкметна хвалюецца. — І толькі Лявонаў, першы сакратар абкама партыі, сказаў, маўляў, дасведчаныя людзі кажуць, што не трэба, што гэта — унікум. Пакіньце! І пакінулі...

**— Марк Мікалаевіч, але ж вы, здаецца, з 1957 года назіраеце, як будынак тэатра чакае рэстаўрацыі?**

— Ды ён ужо з трынаццатага года вымагаў рэстаўрацыі! Бо, на маю думку, пабудаваны на няўдалым месцы (правы бок тэатра ўвесь час падмакае), колькі разоў нас затоплівала. Прабівалі, выхаджвалі мы сваю сённяшнюю рэстаўрацыю, а калі дакладна, дык рэканструкцыю, амаль трыццаць гадоў. Архітэктар Камбураў (менавіта ён больш за сто гадоў таму адгукнуўся на запатрабаванні гарадской інтэлігенцыі) ведаў сваю справу: такі тэатральны будынак вы наўрад дзе знойдзеце. Тэхніку і прынцыпы афармлення таго часу сцэна трымала ідэальна. Але ж цяпер нават тэхніка акцёрскага выканання змянілася, не тое што механіка ды машынерыя. Пэўна ж, зачынілі стары будынак своечасова: сцэна на шэсцьдзесят сантыметраў адарвалася ад падмурку і вісела ў паветры. Ярусы калываліся, столь правісала. Аднаго разу пасля дажджу правісла і каля маёй майстэрні. Папрасіў рабочых узяць багор ды прабіць тынкоўку. Як толькі яе пасунулі, дык на нас вывалілася амаль семдзесят тон цэглы...

**— Семдзесят тон?!**

— Ледзь не пазабівала. Услед за цэглай — кулямёт, за ім — парэшткі кулямётчыка ў чырвонаармейскай форме, стужкі з патронамі... Цяпер рэканструктары пастараліся, зрабілі на месцах дзірак ды пукатасцяў такую прыгажосць! Дарэчы, працуюць тут майстры з трэста N 17 будупраўлення N 56. Выдатна працуюць, з веданнем справы, у тэрміны ўкладаюцца, сцэну паднялі на дваццаць метраў, пільнуюць кожную драбніцу праекта!

**— А рэстаўратары?**

— Рэстаўратары? Не... Гэта — разбой нейкі. Зламана ўсё. Не зроблена нічога. Я пільнаваў летам: паўтара метра сцяны яны чысцілі тры месяцы. Калоначкі з адметнаю разьбою так абнавілі, што замест стылю эпохі паўсталі трубы або нейкія купецкія калонішчы. Бо парушаны ўсе прапорцыі. Разьбу, вядома, ададралі, хоць яе, стогадовую, рушыць няможна было, яна ж зраслася ўжо з фарбаю, з дрэвам калонаў. Я вось падабраў фрагмент, у сталe трымаю — для спецыялістаў. У тэатры заўжды панаваў арыстакратызм, вытанчанасць, а цяпер, напэўна, усё будзе падобным да піўнога ларка. Сённяшніх рэстаўратараў Магілёўскага тэатра не тое што прафесійнікамі — рамеснікамі не назавеш. І псуюць яны тое, з чаго тэатр, уласна, пачынаецца — глядацкую частку. Я ад пачатку рэстаўрацыі казаў пра сталічных спецыялістаў з Мінска. Свае, аднак, здаваліся таннейшымі. Што ж, калі-небудзь заплацім двойчы, калі не тройчы.

**— Тэатру, які цяпер працуе ў малапрыстасаваным памяшканні Дома палітасветы, даецца ў знакі часовае небыткаванне?**

— Душа баліць за культуру. Культуру загубіць — трэба адзін добры загад аднаго непрафесійніка, які не разумее, што робіць. І ўсё. У нашых умовах — няма культуры. А потым паспрабуйце падыміце, аднавіце, адрадзіце...

**— Марк Мікалаевіч, а чаму так карцела знесці стогадовы тэатральны будынак?**

— Ды новае лягчэй будаваць. Падумаеш, камяніцу склалі! Які будынак склалі за два гады — цуд! Але ж гэта новае — толькі частка старога тэатра. А стогадовыя сцены пакутуюць ды церпяць... Я яшчэ не бачыў аніводнага сучаснага будынка, які б адпавядаў тэатральным, мастацкім запатрабаванням. Апошняя вайна прайшлася па Магілёву моцна, амаль нічога не ацалела. І сярод гэтага ацалелага — стары тэатр. І воку ёсць на чым адпачыць, і душы будзе да чаго спрычыніцца... Яго нават не з патрыятызму, а дзеля душэўнай раўнавагі трэба зберагчы ды аднавіць, даць яму новае жыццё. Яму, старому, які далучыць да сябе новую частку. А над старым няма нават тэхнічнага нагляду. Рэстаўратарамі паспрабуй, пакіруй! Мо да года 2005 яны і паспеюць, калі за імі не прыйдуць перарабляць адразу ж.

**— Ведаю, што акцёры сталага веку былі супраць рэстаўрацыі...**

— Ну гэта зразумела: людзі чакалі пенсіі. І мне казалі, маўляў, ты ж наш раўналетак, табе гэтыя мітрэнгі, гэтая вавжданіна нашто? Але ж гэта — дом наш. Дом. І жывём мы цяпер толькі спадзяваннем туды вярнуцца.

**З Маркам ВОЛАХАВЫМ сустракалася і гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*г. Магілёў*

МУЗЫКА

# Свет гітары адкрыецца кожнаму...

## ПРОСТА ІНФАРМАЦЫЯ

У Новым Замку горада Гродна адбыўся канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў гітарыста Дзяніса Асімовіча. Ён выканаў класічную, рамантычную і сучасную музыку. Фрэскабальдзі, Баха, Саро, Паганіні ўдала дапаўнялі творы лацінаамерыканскіх кампазітараў Марэля, Кардосы, Піяцола. Публіка захоплена прымала маладога артыста.

Свет гітары адкрыецца кожнаму, хто пачуе яе пяшчотныя гукі, хто ацэніць яе высакародную прыгажосць, хто суаднясе парыванні свайго сэрца з тым радасным гімнам жыцця, які яна творыць з незвычайнай далікатнасцю і вытанчанасцю...

## З ЧАГО ПАЧЫНАЛАСЯ

За кароткай інфармацыяй хаваецца жыццё чалавека складанага лёсу.

Дзяніс страціў зрок, калі яму было тры гады. Цяпер ён не памятае, як выглядае сонечнае свята, зялёная трава, сінія валошкі, якія разбегліся па краях пшанічнага поля. Ён не ўяўляе сабе ні яркіх зорак на начным небе, ні іскрыстую бель глыбокіх сумётаў, ні чырванагрудых снегіроў, якія бесклапотна чырыкаюць каля дома. І сны да Дзяніса прыходзяць не каляровыя, нават не чорна-белыя. Калі сніцца яму мама, ён пазнае яе па тэмбры голасу.

У пяць гадоў Дзяніс пачаў іграць на фартэпіяна. Затым — вучоба ў гродзенскай школе-інтэрнаце для сляпых дзяцей. Тут закончыў музычную студыю. Сустрэча з вядомым у рэспубліцы гітарыстам Уладзімірам Захаравым вызначыла ўсё далейшае жыццё Дзяніса. Захараў падрыхтаваў юнака да ўступных экзаменаў у Гродзенскае музычнае вучылішча, дзе стаў ягоным выкладчыкам. З імем свайго настаўніка звязвае Дзяніс і першыя поспехі: малады гітарыст хутка стаў лаўрэатам абласнога конкурсу "Новыя імёны" ў Гродне, Рэспубліканскага конкурсу імя І. Жыновіча ў Віцебску, міжнародных конкурсаў гітарыстаў у Кракаве і Крыніцы Горскай (Польшча). Журы міжнароднага конкурсу невідушчых музыкантаў у Марыянскіх Лазнях (Чэхія) высока ацаніла ягонае майстэрства і паднесла ў дар гітару цудоўнага чэшскага майстра Чэрніка!

Асабліва цёпла прымала Дзяніса Асімовіча Прага. У гэтым горадзе ён даў каля 20 канцэртаў. Выступаў там у Іспанскім пасольстве. Удзельнічаў у дабрачыннай акцыі "Дапамога нашым дзецям", арганізаванай жонкай прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела. Двойчы іграў па Нацыянальным радыё. Знакаміты гітарыст Штэпан Рак асабіста запрасіў Дзяніса на стажыроўку ў Пражскую акадэмію мастацтваў. Потым прадоўжыў тэрмін навучання на тры месяцы, прычым зрабіў гэта за свой кошт.

## ШТЭПАН РАК

Ці трэба гаварыць, хто такі Штэпан Рак? Гэта наватар, які карэнным чынам змяніў погляд на гітару. Ён значна пашырыў дыяпазон яе выяўленчых сродкаў. Зрабіў літаральна рэвалюцыю ў тэхніцы здабывання гуку. Ён неперайманы і ні з кім не параўнаны ў трэмала.

Штэпан Рак — яркі і плодны кампазітар. Ужо выйшла 6 кампакт-дыскаў з яго музыкай. Калі слухаеш віртуозную (я сказаў бы, неверагодна віртуозную!) ігру Штэпана Рака, перад вачамі паўстае постаць неўтаймоўнага Паганіні: чым быў Паганіні для скрыпкі ў пачатку XIX стагоддзя, тым жа стаў Штэпан Рак для гітары ў канцы стагоддзя XX.

Гітара — надзвычай капрызлівы інструмент. Для яе немагчыма стварыць штосьці значнае, не граючы на ёй больш-менш прыстойна. Гітара — інструмент дзёрзкіх. Яна скараецца толькі настойлівым і мужным людзям — такім, як Штэпан Рак!

Шмат сіл і часу аддае ён педагогіцы. Ён заўважыў у Дзянісе творчую асобу. Ашчадна, без ценю мiндальнiчання развіваў ягоны талент.

Нарэшце, Штэпан Рак — гэта добры і разумны чалавек, інтэлігент да мозга касцей. Не раз ён даваў Дзянісу ўласную гітару (Бог ведае, колькі тысяч долараў яна каштуе!) для канцэртных выступленняў — вось яшчэ адно сведчанне велікадушнасці вялікага музыканта!

## ВЕЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Дзяніс вярнуўся дадому акрылены. У Празе бачылі ў ім артыста, былі шчодрыя на знакі павагі. На радзіме — поўная абыякавасць да чалавека. Паўсюль неадольныя перашкоды і прыхаваная варожасць. Шэрыя будні патушылі энтузіязм маладога музыканта. Ці ж не крыўдна, што, паступіўшы ў Беларускую акадэмію музыкі і правучыўшыся ў ёй чатыры гады, так і не ўдалося даць ніводнага сольнага канцэрта ў Мінску? Мне незразумела, чаму ў такой прэстыжнай навучальнай установе нікому няма справы да творчага росту таленавітага студэнта.

Сённяшняя Беларусь наогул значна адстае ад Еўропы ў падтрымцы мастацтва. Цяжка сказаць, хто адукоўвае наш народ. А хто наведвае ў Гродне такія канцэрты, які даваў Дзяніс Асімовіч у Новым Замку? Ці была там свядомая інтэлігенцыя? На жаль, у яе няма патрэбы атрымліваць асалоду ад музыкі. Тыя, хто лічыць сябе мастацкай элітай, разышліся па цэхах і старанна вымучваюць з сябе натхненне. Ёсць сярод іх такія, што ўжо даўно закасцянелі, ператварыліся ў рамеснікаў, непрыкметна для сябе зрасліся з безаблічнай чыноўнічай масай...

## У НОВЫМ ЗАМКУ

Каб высветліць характар артыстычнай індывідуальнасці Дзяніса Асімовіча, згадаем ягоны канцэрт у Новым Замку.

У зале панавала абсалютная цішыня. Аўдыторыя ўслухоўвалася ў голас гітары з прытоеным дыханнем.

На музыку, якую выконваў Дзяніс, можна было паглядзець з трох пазіцый: гістарычнай, псіхалагічнай, духоўнай.

Публіка праніклася атмасферай мінулых эпох. Канцэрт праходзіў у замку караля Станіслава Панятоўскага. Побач узвышаўся замак караля Стэфана Баторыя. Некалькі стагоддзяў таму ў іх прасторных залах гучала амаль такая ж музыка, якую граў Дзяніс. Строгая гармонія твораў Фрэскабальдзі і Баха вяртала ў часы панавання велічных сабораў і малітоўных гімнаў.

Я ўспрымаў ігру Дзяніса вельмі своеасабліва: ніяк не мог пазбавіцца адчування, што знаходжуся ў цёмнай пячоры. Вакол бездань цемры! Але вось хтосьці запальвае свечку, і перад вачыма вымалёўваюцца тысячагадовыя каменныя рэльефы, са столі звісаюць сталактыты, насустрач ім узыходзяць загадкавыя сталагміты. Я бачу цудоўны, незямны прыгажосці храм! Геніяльныя творы Баха асвятляюцца цёмна-чырвоным полымем Вечнасці. Чалавек ператвараецца ў кропку, у імгненне. А недзе наверсе адыходзяць у нябыт цывілізацыі, дзяржавы, народы!

Пры больш пільным поглядзе на Дзянісавыканаўцу адчуваеш, што ягоная душа выпраменьвае ўнутранае няўгледнае святло, якое гатова вырвацца за межы змрочнай пячоры. Яно не звязана ні з Гісторыяй, ні з Вечнасцю. Яно нясе нам Любоў і Веру!

У Іосіфа Бродскага ёсць такія вершы:

*В заметанной снегом пещере,*
*своей не предчувствуя роли,*
*младенец дремал в золотом ореоле*
*волос, обретавших стремительно навык*
*свеченья...*

Так, душа Дзяніса набывае "навык свеченья". Яна заклікае нас звярнуцца да Бога. Ці не ў гэтым хаваецца сакрэт уздзеяння выканаўчага майстэрства Дзяніса Асімовіча?

**Віталь РАДЗІЁНАЎ, старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**



*На здымку: сустрэча ў Празе. Штэпан Рак і Дзяніс Асімовіч.*

## Школа мастацтваў — у калгасе



Дагэтуль у калгасе "Язёрскі" Чэрыкаўскага раёна працуюць філіял раённай школы мастацтваў і дзіцячы садок з чатырма дзесяткамі дзяцей. Ніякія эканамічныя цяжкасці, лічаць тут, не павінны перашкаджаць выхаванню маладога пакалення. Таму і спакойныя хлебаробы на вясеннім полі — іх дзеці не толькі дагледжаны, а і навучаюцца цікавай і карыснай справе.

*На здымку: выкладчыца па класе фартэпіяна Анжэла Падабед з навучэнкай Юліяй Іваленкай.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Майстра лазапляцення



Тры гады прайшло, як упершыню ўзяў Сяргей Уманцаў у рукі лазу, а ўжо стаў у акрузе прызнаным майстрам лазапляцення. А зусім нядаўна яго прынялі ў члены Саюза майстроў народнай творчасці.

*На здымку: майстар лазапляцення Сяргей Уманцаў з вёскі Гірэйшы Браслаўскага раёна з дачкой Насцяй.*

*Яўген КАЗЮЛЯ, кар. БЕЛТА*

## Беларусачка...



Таццяна Захарава — студэнтка мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага універсітэта.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ПОШТА

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# З юначых дзён на ўсё жыццё

## Сейбіты ад духу

*Хто сее ў сваім целе ад цела, сажне тленне, а хто сее ў духу ад духу, сажне жыццё вечнае*
(Са Свяшчэннага пісання)

*Помню — дзед мой засяваў*
*палоску, —*
*На зярняткі ён не быў скупы.*
*А пасля вязьмом жанкі за вёскай*
*Спавівалі, як дзяцей, снапы.*

*Стала праца дзедава прызваннем*
*І яго нашчадкаў з даўніх год.*
*Ад пасеянага зерня раннем*
*Праясняецца і сонца ўсход.*

*Кожны можа пад уласным імем*
*На зямлі стварыць жывую ніць,*
*І за ўсё сваё жыццё Радзіме*
*Ці пасеяць штосьці, ці пасадзіць.*

*Як бы ні гулі вятры над полем,*
*Колькі б там слядоў ні замялі, —*
*Сейбіт духу з вечнасцю ў суполлі*
*Не смяротны працай на зямлі.*

*Гэтай працы веснаю парою*
*Неба вее ласкай, цеплынёй,*
*Свеціць сонца яснаю зарою,*
*Нават птушкі падпяваюць ёй.*

*Падымаюцца з яе сцяблінкі*
*І іскрацца зернем каласы,*
*Хлеб смачнейшы ад любой скарынкі,*
*І гучней паэтаў галасы.*

*Саладзей бываюць на вяселлі*
*Пацалункі вуснаў маладых,*
*Здаравейшы дух у моцным целе,*
*Маладзее сэрца кожны ўздых.*

*Шар зямны рыпіць сухою воссю, —*
*Хтось агонь шалёны распаліў.*
*Але сейбіт крочыць смела ў восень,*
*Каб засеяць пад зіму палі.*

*Верыць ён, што пройдзе завіруха,*
*Золата асыплецца з лісця.*
*Працай плённай у духу ад духу*
*Ён пасее вечнасць для жыцця.*

*І не трэба надрывацца горнам,*
*Каб у полі сейбітаў збіраць.*
*Подзвігам духоўным, непаўторным*
*Вечна ім свае вышыні браць!*

## Францыск Скарына ў цэлым свеце

Адаму МАЛЬДЗІСУ

*Францыск Скарына! Пры любой пагодзе*
*Цяплей на свеце ад яго ных слоў.*
*З Дзвіны сваёй амаль*
*праз пяць стагоддзяў*
*На Влтаву ў Прагу ён вярнуўся зноў.*

*Спыніўся не на сцежцы*
*тут імшарнай, —*
*На той жа плошчы, дзе даўно бываў.*
*У родным Полацку яго з пашанай*
*Вядомы скульптар з бронзы адліваў.*

*Хоць межы і ахоўваюцца строга,*
*Свет дзе-нідзе ўцяняецца смугой, —*
*Была не вельмі доўгаю дарога*
*Яму з адной краіны да другой.*

*Скарыніна вяртанне стала святам*
*Для нас, для ўсёй славянскае зямлі.*
*Мы па яго слядах у сорак пятым*
*За вызваленне Прагі бой вялі.*

*Былі і ў парку ля Вацлаўскай плошчы —*
*На тых алеях, дзе і ён хадзіў,*
*І гутарыў пад ціхі дрэваў пошчак*
*З прыродаю — прыгожаю наўздзіў.*

*Прад ім сягоння сцеляцца абрусам*
*Планеты ўсёй палеткі і лугі.*
*Адсюль да ўсіх данесіў беларусаў*
*Свой скарб духоўны — самы дарагі —*

*Прароцтва кнігу ў маладой абнове —*
*Першадрукар наш — сын купца Лукі.*
*І праз вякі яго на роднай мове*
*Мы ўсе чытаем — дзеці і бацькі.*

*Ад сэрца дзякуй тым нямногім людзям,*
*Што Цэнтр Скарынінскі*
*стварыць змаглі,*
*З якога прашчур наш вялікі будзе*
*Ад краю ў край ісці па ўсёй зямлі.*

*Вунь месячык за хмаркай неадрыўна*
*Плыве. Мы кажам: —*
*Гэта твой маяк,*
*Глядзі туды, наш дарагі Скарына!*
*Там недзе зорка свеціцца твая.*

*Тваё імя далі мы зорцы гэтай,*
*Бо не забыты ў свеце ты нідзе.*
*І з новаю далёкаю планетай*
*Твая Радзіма гутарку вядзе.*

## Мая зямля

*Я там узрос,*
*дзе з-пад карэння соснаў*
*Лясная Бесядзь свой бярэ выток,*
*І першы крок*
*пад стук сямейных кроснаў*
*Зрабіў я з хаты ў дзедаўскі садок.*

*А халадок рабін з барвовай гронкі*
*Сцяліўся долу ў восеньскай імжы.*
*Дзед у аналы роднае старонкі*
*Мяне прыпісваў на святой імшы.*

*Вясна там сёння распускае веце,*
*А восень сыпле золата на дол.*
*Зямля ж так любіць,*
*каб усё на свеце*
*Жывой красой квітнела навакол.*

*Я за яе кідаў сябе ў паходы,*
*Дзяліўся з ёю ўсім у барацьбе.*
*Таму яна і беды і нягоды —*
*Усё заўсёды брала на сябе.*

*Я шмат дарог прайшоў,*
*крутыя сцежкі*
*Пакінуў дзесь далёка за мяжой.*
*Але такой, як у сваёй, усмешкі*
*Нідзе не бачыў у зямлі чужой.*

*Яна мяне вучыла не скарацца*
*Нідзе з юначых дзён на ўсё жыццё.*
*І сёння мне прыносіць плён у працы*
*І светлае любові пачуццё.*

*Я не знайду нідзе такой крыніцы,*
*З якой бы вычарпаў усё да дна, —*
*Бо той крыніцай у святле зарніцы*
*Навек мая мне стала старана.*

---

Паўлюк ПРАНУЗА

●

*Маладосць несла цяжкую ношу.*
*Не люляў мяне ў радасці лёс.*
*Праз паходы, нягоды, парошу*
*Свой салдацкі я гонар пранёс.*

*Мала зведаў спачынку, прывалаў:*
*Дні і ночы ў зацятых баях...*
*Беларусь! Ты мне сілы давала,*
*Асвятляла цярністы мой шлях.*

●

*У агні, артылерыйскім гуле*
*Мы ішлі у бой перамагчы.*
*Кулі, што юнацтва абмінулі,*
*Працінаюць сны мае ўначы.*

*Хто ў грудзі біў сябе з натхненнем*
*І кляўся: людзям шчасце нёс,*
*Не даравацьтым прабачэння*
*За гора, за жабрацкі лёс.*

## Суцяшае адно

*Сонца нізка ўжо, на заходзе.*
*Пацямнелі аблок астраўкі.*
*Я дакопваю на агародзе*
*Бульбу, моркву і буракі.*

*Павячэраў. Прылёг на канапу.*
*Неяк мулка. І я не засну.*
*А сабака працягвае лапу,*
*Бы жадае мне добрага сну.*

*Ныюць цела ад працы і стомы,*
*І пякуча свярбяць мазалі.*
*Суцяшае адно, што я дома*
*На любімай бацькоўскай зямлі.*

## Жыцця майго калыска

*Скажу я шчыра: старасці баюся,*
*Яна прыгне і ў рукі дасць кіёк.*
*Хачу прайсці шляхамі Беларусі*
*Праз поле, дзе сінее васілёк.*

*Хачу пагрэць здубелыя далоні*
*Пясочкам берагу ля ціхае ракі,*
*Дзе мы купаліся, паілі коней,*
*Бясхмарнай маладосці юнакі.*

*Тут у вянках магілы, абеліскі,*
*Сваіх сяброў забыць я не магу.*
*Мая зямля — жыцця майго калыска,*
*Перад табою я заўжды ў даўгу.*

---

Дзмітры САМОЙЛЕНКА

## Рачулка Часу

*Час няўмольна бяжыць,*
*хутка-гулка,*
*сустракаючы зло і дабро.*
*Пастаянна, няспынна рачулка*
*мкне у далеч сваё серабро.*

*У яе ёсць свае абаронцы:*
*гай бярозавы, вербы, лаза —*
*засланяюць вадзіцу ад сонца,*
*што цячэ, як па твары сляза...*

*Так, цячэ ў векавечным напрамку,*
*ці то лета вакол, ці зіма.*
*Днём струменіць, і ноччу, і ранкам,*
*і звароту назад ёй няма.*

*Так гады маладыя міжволі*
*пацяклі, адквітнеўшы, як сад,*
*І не ўбачацца з намі ніколі,*
*бо дарогі няма ім назад.*

## Хіба я думаў пра вайну

*У думках частых зазірну*
*Ў сваё далёкае юнацтва.*
*Хіба я думаў пра вайну,*
*Калі мне стукнула семнаццаць?*

*Ці мог падумаць я тады,*
*Што бед страшэнных шмат убачу,*
*Што лепшыя мае гады*
*Згараць датла ў баях гарачых?*

*Я слухаў музыку дуброў.*
*Цяпер у памяці шчэ бачу,*
*Як срэбны месяц над дваром*
*У чоўне плыў у сне юначым.*

*Пра кветкі-краскі, сад, вясну*
*Ужо нізку склаў няспелых вершаў...*
*Хіба я думаў пра вайну*
*Тады, вясной, у сорак першым?*

## Ветэран

*Прайшоў нялёгкі, доўгі шлях,*
*Прыйшоў дамоў баец.*
*Прынёс ён ордэн на грудзях*
*І у грудзях — свінец.*
*Звінела часта на лугах*
*Яго каса струной.*
*Тады ён быў на дзвюх нагах,*
*Цяпер — няма адной.*
*Трывожыў ноч яго баян*
*За вёскай на рацэ.*
*Цяпер не мае ветэран*
*Двух пальцаў на руцэ.*
*Аб міры думае салдат,*
*А ледзь агорне сон —*
*Яго застрочыць аўтамат:*
*Ідзе ў атаку ён.*

г. Барысаў

ЛЮБОЎ

# Быў у мяне Магнат...

РУБРЫКАЙ да гэтых маіх нататак магло б быць і нейкае іншае слова. Напрыклад: апантанасць. Ці: прафесія. Альбо: чалавек на сваім месцы. Але я ўсё ж выбрала вось гэтае — любоў. Чаму? Нататкі — адказ на гэтае пытанне.

А загаловак падказаў мне Уладзімір Караткевіч. Ягонае цудоўнае, незабыўнае апавяданне "Былі ў мяне мядзведзі". Зрэшты, мо ён і сам па сабе знайшоўся, гэты загаловак? Бо ў мяне сапраўды быў Магнат. Наш любімец, наш, выбачайце, член сям'і, "самы лепшы ў свеце" сабака, немец-аўчар чапрачнага акрасу па імені Магнат. І ўсё ж не абышлося без уплыву У. Караткевіча. Бо яшчэ і да Магната жыло гэта ў душы — "Былі ў мяне мядзведзі".

Быў і ў мяне Магнат. На жаль, ужо толькі — быў! Быў са мною, з намі дзесяць з гакам гадоў. Паявіўся ў нашай хаце, прыехаўшы на таксі ў сына за пазухай, тоўсценькім, калмаценькім, зусім чорненькім камячком на тоўстых моцных лапах марозным снежаньскім днём 1986 года. Я і муж і ў думках ніколі не мелі ўзяць ці купіць сабаку. Падзялялі пафас верша Г. Бураўкіна "Сабакары": шалеюць ад сытасці, сабак водзяць на павадках, у машынах возяць на дачы, песцяць ды кормяць гэтак, як іншы і дзіця не глядзіць!.. А тут раптам паддаліся хвілiннай слабасці: прысталі сыны — купім ды купім... І прывезлі малы жывы камячок, з радаводным пашпартам ды абавязацельствам імя даць абавязкова на літару "м". Божа, як мы ўсе разам шукалі тое імя на "м"! Перабралі ўсё так званае абыходкавае — нічым не спакусіліся. Перабралі модныя замежныя імёны-клічкі — адкінулі прэч, бо — хацелася нешта сваё, беларускае. Нечакана выбліснула — магнат. Усе ці не адным дыхам выгукнулі: ну вядома ж — Магнат!

Так у нашай звычайнай трохпакаёвай гарадской кватэры пасяліўся сабака. Ды не сабака яшчэ, а малы, месячны шчанючок. Клопату з ім — не абабраццa! Адзінае, чаму быў навучаны, — есці. Астатняму трэба было вучыць — цярпліва, штодня. І даглядаць — сапраўды як дзіця. Кармленне, прывіўкі, беганіна ў клуб сабакаводства, што-раніцы яшчэ нацямку — на вуліцу, на шпацыр — рэжым дня ўжо яму, Магнацьку, падпарадкаваны. Здараліся і непрыемнасці. Завіхаюся на кухні, як раптам чую: "Марыя, кабель пісае!.." Не адразу і датумкала, што гэта мне. Выбягаю на балкон-лоджыю і высвятляю: аказваецца, мой Магнат на балконе "зрабіў лужу", і колькі крапляў капнула на суседчын, унізе, балконны кветнік. Ну, ды гэта здарылася, калі малы зусім быў, калі яшчэ пры гэтай патрэбе і лапы падымаць не ўмеў. А пасля з ім такіх кур'ёзаў не здаралася, у гэтым плане ён быў незвычайны акуратыст.

Ды, зрэшты, не пра клопаты і турботы гаворка. Усё гэта з ліхвою кампенсавалася радасцю нашых з ім дачыненняў. Само сабою, тут мяне зразумее, бадай, толькі той, хто зведаў гэтую радасць сам. У каго таксама быў (ці ёсць) сабака. Вядома, Магнат — буйны, вялікі сабака, сапраўдны волат-магнат, — жыў не зусім сваім сабачым жыццём: ён павінен быў бы несці сваю пільную вартаўнічую, скажам, службу, даганяць і валіць долу шпіёнаў-дыверсантаў ці зладзюганаў-грабежнікаў. Мы ж прымусілі яго, на жаль, быць "дыванным катом", лежабокам-лодырам. Тут мы перад ім вельмі вінаваты! Але ж — мы прывязаліся да яго, палюбілі гэтак, што не маглі ўжо без яго. Ён стаў часткаю нашага жыцця. Ён, ці, больш дакладна, з ім прыйшло ў нашу хату, у нашу сям'ю нешта вельмі важнае і значнае. Ён мірыў нас, калі раптам усчыналася (ці ж абыдзешся!) сварка, рэагуючы не то што на сварку, а ўжо на павышаны тон голасу. Ён нерваваўся, перажываў разам з намі, калі нехта з сямейнікаў недзе затрымліваўся. Ён супакойваў мяне ці мужа, калі здаралася нейкая службовая ці якая іншая непрыемнасць...

Ды пра Магната можна прыгадваць і прыгадваць, а я ж, між тым, збіраюся распавесці ўсё ж пра чалавека. Так, так, пра чалавека. Аднак жа пачаць гаворку пра яго, не згадаўшы нашага Магната, проста немагчыма. Бо пазнаёмілася я і ўсе мае сямейнікі з гэтым чалавекам менавіта праз... Магната. Якім чынам?

Сталася так, што наш пястун недзе ў трохмесячным узросце скокнуў няўдала з канапы-дывана і... зламаў правую заднюю лапу. Божа, што рабіць? Хутчэй да ветурача! Дзе яго шукаць тут, у Мінску? Ці ёсць у горадзе гэтыя самыя ветлячэбніцы? Не сутыкаліся мы датуль ані з чым такім.

Язык, згодна прымаўцы, сапраўды да любога "Кіева" давадзіць. Давёў ён нас і да ветлячэбніцы. І там трапіў наш бедны Магнацька ў рукі да "сабачага доктара" Пятра Васільевіча Арэхава. І як толькі зірнуў гэты доктар на нашага бедалагу, у таго адразу выраз мордачкі змяніўся. Паверце: не хлушу! Сама б не паверыла, калі б не бачыла (пасля, цягам дзесяці гадоў, неаднойчы) на ўласныя вочы тых метамарфоз, якія адбываліся з пацыентамі доктара Арэхава ўжо адно пры судакрананні з ім. Я цяпер ведаю, што жывёла адчувае і прадчувае амаль гэтак жа, як і чалавек, і амаль гэтак жа рэагуе на дабро і ласку ці, наадварот, злосць і крыўду. На таго ж Магната дастаткова было "строга" паглядзець, каб ён падцінаў хвост, угінаў спіну, клаў вушы і вінавата адыходзіўся ад цябе. Ну, а што да Пятра Васільевіча, дык вочы ў яго, несумненна, — гэта вочы славутага доктара Айбаліта. І голас — таксама. Як цяпер бачу: ледзь не сілком вядуць сабаку ў пакой, да доктара Арэхава, а той упіраецца, злосна адгыркваецца. А наш доктар Айбаліт зірне на яго, слова-другое скажа — і злосці ў сабакі як і не было, пакорліва-паслухмяна сядае ці кладзецца і дазваляе рабіць з сабой усё, што трэба альбо неабходна.

Пётр Васільевіч наклаў тады на Магнатаву лапу гіпсавую павязку, растлумачыў, што і як рабіць, праз які час зняць тую павязку, размачыўшы яе ў цёпленькай вадзе, і развітаўся з загіпсаваным небаракам прыкладна так:

— Ну, жыві і не гаўкай без прычыны! Думаў, што да мяне не патрапіш? Памыляешся, брат! Мяне кожны сабака ў Мінску ведае. Калі будзеш гэткі дурненькі, як цяпер, дык і яшчэ не адзін раз трапіш у мае рукі...

Больш Магнат, можна сказаць, не трапляў у рукі да Пятра Васільевіча, прынамсі, "па-сур'ёзнаму", ажно да свайго апошняга дня, але пра тое пакуль памаўчу. А што да Арэхава, дык я неўзабаве, калі пазнаёмілася з іншымі "сабачнікамі", блізкімі і далейшымі, пераканалася, што яго сапраўды "кожны сабака ведае". І ўсе без выключэння іхнія гаспадары гаварылі пра доктара Арэхава з захапленнем і ўдзячнасцю.

З 1954 года працуе ён ветурачом. Сам родам з Віцебска, там собіла жыць на ўскраіне горада, побач з ветлячэбніцай. Бацька быў рамізнікам, а дзядзька — балаголам. Абодва любілі коней, шанавалі іх і... лячылі, найперш дзядзька, які меў нават пэўную ветэрынарную адукацыю. Пятро Арэхаў марыў стаць геолагам, пасля школы падаў быў дакументы ў геалагічны тэхнікум, збіраўся стаць маркшэйдэрам, ды жыццё распарадзілася нечакана зусім інакш. Дзядзька паклаў вока на пляменніка: менавіта яму перадаць сваё ветэрынарнае ўмельства і адмысловыя па тым часе інструменты, сабіраныя цягам усяго жыцця. І ўгаварыў пляменніка забраць дакументы з геалагічнага тэхнікума і пасадзіць іх у ветэрынарны. Хлопец, калі папраўдзе, надта і не ўпіраўся, бо — жывёлін розных любіў, бачыў іх, хворых і скалечаных, і ў дзядзькі "на прыёмах", і ў блізкай ветлячэбніцы, заўсёды шкадуючы іх, бязмоўных, але якія і без слоў выказвалі просьбу аб дапамозе і ўдзячнасць пасля перавязкі ці якой іншай, больш складанай аперацыі. Сказалася і тое, што на той час старэйшая сястра вучылася ў ветінстытуце. Што ж, падумаў, чым чорт не жартуе — тут ужо і ветдынастыя пачынаецца!

Пасля арміі, дзе таксама даводзілася мець справу з хвораю жывёлаю, вярнуўся ў Віцебск і ўжо без роздуму прыйшоў на працу ў ветлабараторыю. Тут і каханне сваё напаткаў — неўзабаве лабарантка Марыя (дакуль ужо Марыя Міхайлаўна) стала ягонаю жонкаю. Сёння яна ўжо і абагнала мужа, стала кандыдатам медыцынскіх навук — "птушыным доктарам", як жартуе Пятро Васільевіч. І дадае:

— А нічога ў нас чалавечага, калі папраўдзе, няма. Збярэмся, скажам, за сталом, дык адно пра сабачыя, кашэчыя ды птушыныя хваробы гаворка ў нас...

У Пятра Васільевіча навуковага звання няма, аднак жа і ён, як кажуць, не лыкам шыты. Напісаў і апублікаваў у навуковых зборніках і часопісах нямала артыкулаў, мае больш за дзесятак навуковых прац (самастойных і ў сааўтарстве), стварыў спецыяльны станок для ўтрымання сабак буйных парод на выпадак, калі трапіцца звер, якога цяжка ўтаймаваць без адмысловых прыстасаванняў.

На рабоце Пётр Васільевіч у 6 гадзін раніцы. Пазней яму аніяк нельга, бо і ў шэсць яго тут ужо чакаюць: некаму абавязкова спатрэбілася тэрміновая дапамога. Ягоная ветстанцыя тулiцца ў старым драўляным дамку на вуліцы Аршанскай. Але дзякуючы залатым рукам Пятра Васільевіча тут заўсёды чыста і ўтульна. Ні цесляра, ні сталяра, ні электрыка, ні сантэхніка начальнік станцыі Арэхаў ніколі не запрашае — усё робіць сам. Хто не ведае, падумае: звычайны ветурач, рабацяга. А мы ўсе, хто ведае Пятра Васільевіча праз гады, кажам: сапраўдны інтэлігент, высокаадукаваны, шчыры, дасціпны, апантана адданы справе чалавек!

Прыгадваюцца ягоныя развагі, жартоўныя досціпы, аповеды пра незвычайныя выпадкі з ветпрактыкі...

— Адносіны да жывёлін у сельскай мясцовасці — зусім не тыя, што ў горадзе. Там гэтыя адносіны часцей за ўсё, пераважна спажывецкія. Скажам, вяпрук, карова, гусь — гэта праз пэўны час сала, мяса, малако. Конь — цяглавая сіла, сабака — вартаўнік ці памочнік паляўнічага, кот павінен лавіць мышэй — ні больш, ні менш. У горадзе — усё інакш. Пра кароў ды коней — прамаўчу, іх тут мала, хаця ёсць яны і ў Мінску, у амаль двухмільённым горадзе. Ёсць і свінні. Адносіны і стаўленне да апошніх такія ж, як і ў вёсцы. А вось сабакі і каты... Тут яны не пры чалавеку, а з чалавекам. І за імі ў горадзе трэба, бадай, найперш бачыць чалавека. Але бывае і наадварот: калі за сабакам убачыш чалавека, а за чалавекам — сабаку таго ж самага...

— Прыходзіць да мяне са сваім сабачкам стары чалавек. Пражылі яны разам у аднапакаёвай кватэрцы 13 гадоў. Сабачы век падышоў да канца. Гэта ўжо так прырода прадугледзела, вызначыла, што сабакі старэюць прыкладна ў дзесяць разоў хутчэй за чалавека, і чалавек за сваё жыццё мяняе іх некалькі. А гэты стары просіць прадоўжыць жыццё ягонаму любімцу, ягонаму сябру, кампаньёну, суразмоўцу. І што тут скажаць чалавеку, чым суцешыць?..

— Угу колькі цікавага сабакі пра людзей, сваіх гаспадароў, расказваюць! Хто ў мяне толькі ні быў са сваімі гадаванцамі! Самыя розныя людзі. І мастакі, і пісьменнікі, і спевакі. Памятаю мастачку па габеленах, Ангеліна Бельцюкова яе завуць, і яе ньюфаундленда. Выхаваны быў сабачка, добры, ласкавы. Яно і не дзіўна, бо гаспадыня яго — надзвычай інтэлігентная жанчына, шчырая і душэўная...

— Прывёз неяк адзін з новых, ці "крутых", свайго сабаку. На мерсэдэсе прывёз. Пакуль я з ягоным зверам разбіраўся, дык гаспадар павытрасаў пад варотамі ветлячэбніцы ўсе свае попельніцы, павыкідваў пустыя пляшкі з машыны, анучы нейкія, масляныя плямы развёў... Паглядзеў я на яго і сабаку пашкадаваў. Не будуць гэтага сабаку любіць ні суседзі, ні жыхары блізкіх дамоў. Такі гаспадар павядзе сабаку ў дзіцячую пясочніцу, пусціць яго гуляць без павадка і намордніка. Такому закон, як кажуць, не пісаны. Ён разумее, што не сабака вінаваты, а ён сам, што ён, гаспадар, павінен несці адказнасць за свайго сабаку. Хоць і скочыў ён у матэрыяльным сэнсе высока, а душа лапатнай засталася. Ах, у мяне мерсэдэс і сабака за тысячу баксаў!..

Згадаўшы гэта, не магу не сказаць вось пра што. І Пётр Васільевіч расказваў, і сама я ведаю сёе-тое, што яшчэ гадоў дзесяць назад у Мінску ў камунальных кватэрах сабак трымалі значна меней, чым сёння. Тады ў горадзе быў усяго адзін клуб службовага сабакаводства. (Там, дарэчы, я і здабыла нашага Магната.) У часы ж перабудовы пракацілася проста мода на сабак і катоў, раслі, як грыбы пасля дажджу, клубы, секцыі, федэрацыі — "сабачыя" і "кацічыя". Мода гэтая, на жаль, мела нездаровы характар. Многія людзі спакушаліся зарабляць на развядзенні "малодшых братоў нашых" вялікія грошы — наладжвалі гадавальнікі, дыктавалі ўмовы і цэны. Выпрабаванне часам вытрымалі не ўсе. Утрыманне сабак, ды і катоў, у гарадскіх умовах сёння робіцца надзвычай дарагой справай. Многім стала не пад сілу трымаць сваіх любімцаў, асабліва сабак буйных парод. Нямала жывёлін апынулася на вуліцы. Тыя ж, хто не можа такім чынам пазбыцца чацвераногага жыхара кватэры, пачалі карміць іх абы-чым (гэтак і самі кормяцца), што прывяло да захворвання сабак і катоў. Найперш гэта страўнікавыя хваробы, а ў катоў — мочакаменныя. Пётр Васільевіч сцвярджае, што развіццю хвароб, звязаных з парушэннем стрававання, спрыяюць хвалёныя імпартныя сухія кармы, якія часцяком няякасныя. Лячыць хворых жывёлін не ва ўсіх хапае цярпення, у выніку сабакі і каты таксама нярэдка апыньваюцца на вуліцы. А гэта ўжо небяспечна. Асабліва такое захворванне, як мікраспарыя, найперш яе злаякасныя формы. Найбольш успрымальныя да гэтай хваробы дзеці, а менавіта яны найчасцей і найлягчэй могуць кантактавацца з хворай жывёлінай.

У лютым гэтага года на сесіі Мінгарсавета было прынята рашэнне аб увядзенні збораў з уладальнікаў сабак — ад 30 да 150 тысяч рублёў у месяц у залежнасці ад велічыні сабакі. Баюся, што гэтая мера вымусіць многіх людзей развітацца са сваімі любімцамі. І наўрад ці ўсе зробяць гэта цывілізавана. Значыць, папоўніцца атрад бомжаў і сярод жывёлін.

А між тым, памятаю, Пётр Васільевіч расказваў:

— У Мінску зарэгістравана цяпер прыкладна 20 тысяч сабак. Каб ведаць сапраўдную колькасць, гэтую лічбу трэба памножыць недзе на 3, бо вельмі многія ўхіляюцца ад рэгістрацыі. Многія гаспадары не шукаюць сваіх гадаванцаў у выпадку, калі яны згубіліся. За мяжой жа кожны сабака і кот мае на вуху нумарок, па ім заўсёды знойдуць гаспадара, і гаспадар заплаціць штраф за тое, што дазволіў свайму гадаванцу збегчы. У нас жа бадзяжніцтва нарастае ў геаметрычнай прагрэсіі. З'яўляецца ўсё больш незапатрабаваных сабак буйных парод. А што да падаткаў, дык яны існуюць ці не ва ўсіх краінах. Аднак падаткавыя грошы там выкарыстоўваюць куды больш рацыянальна. Калі бяруць грошы з сабакаўладальніка, дык апошняму прадастаўляюць пэўныя льготы: спецыяльна абсталяваныя тэрыторыі для выгулу, якія прыбіраюцца (мы ж не навучыліся мець пры сабе савок і цэлафанавы мяшэчак і прыбіраць за сваім любімцам, як ва ўсім цывілізаваным свеце), газоны выкошваюцца, трава падсейваецца; ёсць там і спецыяльныя магазіны, дзе можна купіць па даступных цэнах кармы...

Недаўмяваў Пётр Васільевіч і адносна размеркавання сродкаў ад гэтых збораў:

— 30 працэнтаў ад агульнай сумы будзе выдзелена на будаўніцтва цэнтра для бяздомных жывёлін, 15 — спецгаспадаркам за адлоў бадзяжных сабак і катоў, 20 — на заахвочванне жыллёва-камунальных служб, 10 — работнікам міліцыі, 10 яшчэ на штосьці і толькі 5 працэнтаў — ветэрынарнай службе горада. Так, трэба падтрымаць і тую самую, скажам, міліцыю. У Англіі, напрыклад, паліцэйскі можа аштрафаваць сабакаўладальніка толькі за тое, што пры ім няма дакумента аб прышчэпках, або за тое, што яго сабака прысеў на газоне. І сумы пры гэтым спаганяюцца вельмі значныя. Скажам, за парушэнне санітарных норм могуць уляпіць штраф да 300 фунтаў стэрлінгаў... Але чаму толькі 5 працэнтаў на ветслужбу? У нас жа на экстранную дапамогу няма медыкаментаў. Сярод "сабакароў" вельмі шмат пенсіянераў, дзе ім знайсці грошы на сабачыя лекі? Цяпер ветдапамога ўся платная, за выключэннем прышчэпак ад шаленства. Усе іншыя прышчэпкі — ад чумкі, гепатыту, энтэрыту — платныя. Усялякія пластычныя аперацыі, тое ж купіраванне вушэй, даволі складаныя і патрабуюць анестэзійных рэчываў, антыбіётыкаў, шоўных матэрыялаў. А колькі трэба адных толькі перавязачных матэрыялаў!..

Доктар Арэхаў гаворыць пра сваіх пацыентаў з нязменшай зацікаўленасцю, чым "чалавечы" доктар — пра сваіх. Вось паслухайце, калі ласка:

— Вы ведаеце, колькі бывае сярод жывёлін, асабліва сабак, дарожнага траўматызму і траўматызму "ад разборак"? Схема ў іх гэткая ж, як і ў людзей. Толькі калі чалавеку ў час разборак бутэлькай галаву праломяць, ці яго падстрэляць, ці нажом пырнуць, то такія "крутыя", як бультэр'еры ці ратвейлеры, могуць гэтак пагрызці свайго суплеменніка, што яго паўдня латаць даводзіцца. І зноў жа: у такіх выпадках адказнасць павінен несці сабакаўладальнік. Ён не меў права спускаць з павадка і без намордніка такую псіну! У мяне, дзякаваць Богу, ёсць сякія-такія інструменты, ад-нак жа забеспячэнне павінна быць лепшым. Усё ўпіраецца ў тое, што: твая жывёліна — ты і плаці. Антыбіётыкі, іншыя лекі — усё па камерцыйных цэнах. Урач ператвараецца ў камерсанта, ён вымушаны рэалізоўваць платныя медыкаменты, купляючы іх у аптэках з нацэнкай. Хачу ў дадатак вылучыць той фактар, што ў большасці сваёй сюды, у ветлячэбніцу, прыходзяць неблагія людзі. Кепскі чалавек рэдка наогул трымае дома тую ці іншую жывёліну. Таму, паўтараю, прыходзяць людзі са шчырай, добрай душою. Прыходзяць і прыносяць лекі, шпрыцы, бінты. Дзякуй Богу, і ў мяне рукі не адсохлі, сам рамантую, затачваю інструменты...

У сувязі з павелічэннем бадзяжных сабак і катоў шмат гавораць пра выпадкі пакусання людзей, у першую чаргу дзяцей, што, маўляў, нясе небяспеку шаленства. Шаленства, вядома, страшнае захворванне, ад якога без лячэння чалавек паміраe

(Працяг на стар. 15)

## Малююць дзеці



Больш за сто работ прадставілі на выставе, якая адкрылася ў Арт-цэнтры Марка Шагала, выхаванцы 14 дзіцячых мастацкіх школ Віцебшчыны.

*На здымку: знаёмства з экспазіцыяй.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Голас колеру

**Здаецца, што колер набывае гук, мелодыю чыстую і пранізлівую, калі разглядаеш народжаныя ў шкле творы Зоі Краўчанкі. Зоя занялася шклом на пачатку 80-х, калі форма, якая ў 60-ыя скінула з сябе покрыва розных дэкораў, а ў 70-ыя канчаткова даказала сваю самакаштоўнасць, засумавала, запатрабавала сабе новага дэкору — дэкору-партнёра, дэкору-"alter ego", дэкору неад'емнага. Менавіта так адчувае і творыць форму ў шкле Зоя Краўчанка.**

**Яна захоўвае класічныя сілуэты бутляў і штофаў ("Штофы"), крутабокіх амфар ("Песня"), манументальных калон ("Сіла жыцця"), пласкадонных блюдаў ("Рух", "Агняцвет"), зрэдку яна адпускае форму на "самацёк" ("Метамарфозы"). Але больш за ўсё мастака вабіць завершанасць і таямнічасць шара. Ён, як спрадвечнае і канчатковае, прысутнічае ў розных яе кампазіцыях.**

**Дэкор аўтар уводзіць далікатна, часцей уплаўляе ў выглядзе каляровага слоя. Колер як бы магічна захоўвае полымя народзін: пурпуровы павольна застывае, колер расплаўленай лавы, які то запальваецца і паступова згасае ад края да донца, то разліваецца раўчуком, то зацякае акварэльным мазком.**

**Улюбёныя колеры палітры гэтага мастака — смарагд — колер спакою і жыцця ("Цвіценне"), белы сульфід — сімвал чысціні і трымцення (нібы перад белым аркушам), чырвоны — агонь расплаўленай, падатлівай і падступнай масы шкла.**

**З усіх разнастайных тэхналогій Зоя Краўчанка аддае перавагу старажытнай гуце. У ёй, як нідзе, мастак можа ставіцца да матэрыялу як да жывой істоты са сваім характарам, а часам і норавам. Аўтар дае шклу свабоду, але заўсёды ўмее ў патрэбны момант мякка спыніць паток, ахапіць гутным "каўнерыкам" гарлавіну, гулліва адцягнуць край пасудзіны.**

**Лірычны пачатак вобразаў адчувальны ўжо ў назвах, якія нібы "абрамляюць" творы Зоі Краўчанкі, поўныя любові, пяшчоты і голасу колеру.**

**Ларыса ФІНКЕЛЬШТЭЙН**

## Захаваць традыцыі



**Цэнтр ткацтва створаны ў пасёлку Дамжэрыцы Лепельскага раёна. Тут, абапіраючыся на свой вопыт, старыя майстры памагаюць захаваць традыцыі народнага ткацтва, перадаючы свае навыкі маладым.**

*На здымку: работу на кроснах асвойвае Марына Аўтушка.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

КІНО

# Гэтым — адметныя, гэтым — цікавыя

### ПОГЛЯД НА НАШУ ЭКРАННУЮ КУЛЬТУРУ

Беларускае кіно, якому сёння, здаецца, тры чвэрці да смерці, мае будучыню. Яе гарантуе хоць бы Беларускі відэацэнтр — арганізацыя, што існуе з 1989 года.

Каб увайсці ў сусветную інфармацыйную прастору падчас распаўсюджвання лічбавага тэлебачання, трэба мець новае абсталяванне. Гэтаксама як і адраснасць, бо фільмы трэба прадаваць, а сусветны кіна-тэле-відэарынак вымагае пэўных стандартаў: відэафільмы перадусім прызначаны для тэлебачання. Іх выпуск мусіць быць сістэмным (каб з фільмаў складаць асобныя жанрава-тэматычныя праграмы, цыклы, каб яны ўпісваліся ў агульныя структуры розных рубрык тэлебачання). Новая камунікатыўная сітуацыя рэзка адрозніваецца ад дзесяцігоддзяў кінапракатнага рэю і ўсеагульнай любові да кіно, як да "самага найважнага з мастацтваў".

"Белвідэацэнтр" яшчэ не дужа вядомы шырокай аўдыторыі. Больш на слыху назва "Беларусьфільм" (які слушна называлі "Партызанфільмам"). Белвідэацэнтр заняў асаблівую і, можна сказаць, своеасаблівую культурную нішу: тут здымаюцца фільмы аб дзеячах культуры Беларусі, аб мастацкіх калектывах, народных талентах, аб фальклоры. Гэта — пастаяннае экраннае папаўненне (і захаванне) фонду мастацкай культуры Беларусі, таго, чым мы, як нацыя, як народ, найбольш адметныя і цікавыя.

Белвідэацэнтр стварае і экранны летапіс мастацкага жыцця рэспублікі, фільмуючы фестывалі, гастролі, юбілеі і іншыя мастацкія ўрачыстасці.

Яшчэ адзін кірунак — фільмы аб захаванні культуры, аб экалогіі нашай мастацкай спадчыны. Тут у цэнтры ўвагі — каштоўныя помнікі культуры, небяспека іх зруйнавання, формы іх захавання і далучэння да сучаснага культурнага працэсу.

У 1996 годзе было знята 34 дакументальныя фільмы (82 часткі). Адна ўмоўная адзінка (10 хвілін) каштуе 34,1 мільёна рублёў. Лічыцца, што гэта невялікая сума для фільма. Сёлета фінансаванне — 83% ад сумы 1996 года. Фільмаў будзе меней.

Але галоўнае — іх мастацкая якасць. Ці заслугоўваюць яны высокай мастацкай ацэнкі і, адпаведна, увагі гледачоў? Так, створана ўжо нямала цікавага. Не толькі ў справе папулярызацыі розных галін нацыянальнага мастацтва (відэазапісаў славутых оперных ці балетных пастановак ці тэатральных спектакляў). Зняты арыгінальныя відэафільмы, якія ўжо прыцягнулі ўвагу гледачоў і адзначаны журы розных экранных фестываляў. Сярод іх — "Дастаеўскі і Беларусь" (рэжысёр Ю.Ківалаў-Станкевіч, адзначаны "Бронзавым віцязем" на фестывалі "Залаты Віцязь-96"); "Іосіф і яго брат" (рэжысёр С. Лук'янчыкаў — дыпломам фестывалю нацый у Аўстрыі, 1996); "Дабрахожыя" (рэжысёр Г. Врагаў — дыпломам І Велікоднага праваслаўнага фестывалю, 1996, г. Мінск). Выклікаў цікавасць і быў адзначаны мастацкі кароткаметражны фільм-прытча "Іншы" рэжысёра С. Лук'янчыкава.

Беларускае тэлебачанне закупіла на 2 гады праграму відэафільмаў (пад рубрыку "Відэацэнтр прадстаўляе"). Але работнікі "Відэацэнтра" мяркуюць, што гэтага недастаткова. На іх думку (і гэта слушна), трэба было б прадстаўляць фільмы тэлегледачу больш сістэмна і мэтанакіравана: з уступным словам, з працягам абмеркавання праблемы, з пашырэннем поля сацыяльна-культурнага ўздзеяння карцін. Ці магчыма гэта? Думаю, і магчыма, і вельмі карысна.

Ці варты відэафільмы шырокай увагі грамадскасці, масавай аўдыторыі? Цэласная праграма апошніх двух гадоў выявіла шмат цікавага. Аўтары — вядомыя кінематаграфісты і рэжысёры тэлебачання (С. Лук'янчыкаў, Ю. Гарулёў, А. Суханава, У. Цяслюк, М. Якжэн, Ю. Лысятаў, В. Шавялевіч, А. Карпаў-малодшы) і зусім маладыя, творчы шлях якіх толькі пачынаецца (В. Аслюк, І. Волах, Г. Адамовіч, Р. Грыцкова). Белвідэацэнтр больш за ўсё дбае пра творчыя кадры, маючы на ўвазе, што без іх, кадраў, відэатэхніка — проста "жалеззе". А беларуская кінадакументалістыка мае даўнія плённыя традыцыі і высокі мастацкі ўзровень фільмаў, прызнаных у свеце. Маладое ж папаўненне, што прыйшло з майстэрняў В. Турава і В. Дашука, па сутнасці, толькі ў Белвідэацэнтры сёння можа атрымаць работу па прафесіі.

Мяне вельмі парадавала, што маладыя так ярка дэбютуюць. На творчай канферэнцыі па выніках 1996 г. крытыкі аднадушна адзначылі фільм Рэнаты Грыцковай, пастаўлены па сцэнарыі Галіны Злабенкі "Сямейны блюз пад гукі акарыны". Паэтычная назва карціны адпавядае яго светлай рамантычнай танальнасці. Гэта экранная навела пра маладую сямейную пару — Людмілу і Сяргея Шчэрбаў, што жывуць у Навасёлках. Іх аб'ядноўваюць каханне, сям'я і творчая праца. Абодва з захапленнем робяць з гліны розныя музычныя інструменты — ад простых "свісцёлак" да складаных акарын. Але, галоўнае, яны апаэтызавана, узнёсла ўспрымаюць жыццё, прыроду, дзяцей, якім таксама адкрываюць свет прыгажосці. Карціна незвычайная па імпульсах шчасця і гармоніі, што выпраменьвае экран. Мы прызвычаіліся ў апошні час да горкіх ісцін і негатыўных уздзеянняў. Нам патрэбны эмацыйныя імпульсы дабрыні. Фільм Р. Грыцковай нясе гэтыя імпульсы. Паняцці "Дом", "Сям'я", "Дзеці", "Прырода", "Творчасць" у ім зліты ў гарманічным адзінстве.

Сярод карцін 1996 года выдзяляюцца некалькі стужак, дзе творчыя партрэты майстроў даюць нам магчымасць яшчэ раз задумацца аб сэнсе жыцця і творчасці. Можна сказаць, што гэта філасафічныя фільмы і ў нейкай ступені — дакументальныя прытчы. Паказальна, што ўсе яны звязаны з музыкай. Так, у фільме Юрыя Гарулёва "Адажыа" сусветна вядомы музыкант Уладзімір Співакоў ("Віртуозы Масквы") паказаны не толькі як бліскучы дырыжор, што ўвесь іскрыцца, бы насычаны сонечнай энергіяй, але і як філосаф. Ён гаворыць пра музыку як пра жывую крыніцу, жывую ваду душы, што неабходна для творцы і чалавека.

У фільме "Музыка, дапамажы" рэжысёра Галіны Адамовіч малады кампазітар Уладзімір Кур'ян паказаны ў стане душэўнага крызісу. І гэта ўжо рэдкасць для дакументальнага экрана. Страта любай жонкі (нязвыклая для кіно сцэна — кампазітар плача на могілках ля яе помніка), адчуванне дысгармоніі свету — усё адбіваецца ў музыцы. Але ўнутраная адзінота і трагізм жыцця

# КАХАННЕ ДЫСІДЭНТА

*(Праця г. Пачатак на стар. 9)*

Сышліся на тым, што ён заедзе па яе ў тэатр. Прапанаваў падвезці ў горад, але яна гэтай раніцай нікуды не спяшалася.

— Да мяне неўзабаве прыйдуць браць інтэрв'ю. Студэнт-практыкант. Я чакаю...

— Ну, чакай, чакай, — сказаў муж на выхадзе. — Да вечара!

Праўда, чакаць ёй доўга не давялося. Яшчэ як след не паспела сябе прывесці ў належны выгляд, а ў дзверы ўжо званілі...

— Праходзьце...

Студэнт-практыкант быў падобны на падлетка, і яна перайшла на "ты". Запыталася:

— Мінчанін?

— Не, з раёна. Жыву ў інтэрнаце.

— Значыцца, галодны. Здымай куртку, ідзі вунь у той пакой, а я прыгатую чай з бутэрбродам.

Ён не адмовіўся, толькі папрасіў:

— Учора вы сказалі, што ў нас будзе адна гадзіна для размовы, дык, можа, каб не губляць часу, пакуль вы будзеце заняты, я выберу нейкі ваш фотаздымак. Інтэрв'ю, звычайна, друкуецца з фота.

— Ніякай праблемы! Ты сядай... Зараз прынясу табе некалькі альбомаў. Выбірай на свой густ.

...З ім было лёгка, з гэтым студэнтам-практыкантам. І пытанні ён задаваў простыя, не заганяў яе ў кут.

— Вы шчаслівая?

А як жа іначай? Несумненна! У яе добрыя дзеці, цудоўны муж, пра якога ён нават мог дзесьці чуць. Прозвішча вядомае, — Дзяніс Лінчук, галоўны архітэктар горада. У іх трывалая сям'я. Усё астатняе дадаецца.

— Што б вам хацелася вярнуць з мінулага?

Як ні дзіўна, дзяцінства. Цёплую руку мамы, стрыманую пяшчоту бацькі.

— Муж — гэта вашае першае каханне?

Тут трошкі задумалася... Было, што ёй падабаліся хлопчыкі ў школе. А ўвогуле, яна не падзяляе каханне на першае, другое, трэцяе... Дзяніс — той мужчына, які ва ўсіх адносінах яе задавальняе. Яна яго цэніць, па-свойму захапляецца ім і, вядома ж, любіць.

Яшчэ трошкі пагаварылі пра тэатр, трошкі ўвогуле пра жыццё... І студэнт-практыкант сказаў ёй: "Вялікі дзякуй!" Паабяцаў пазваніць, як толькі інтэрв'ю з'явіцца ў штотыднёвіку.

Потым яна была на першай чытцы п'есы ў тэатры, куды па яе, як і дамовіліся, своечасова заехаў Дзяніс. Яны правялі мілы вечар у рэстаране з заманлівай назвай "Качка з яблыкамі ў Антона". І тыя "антонаўскія" яблыкі з чарачкай каньяку дадалі прыемнага настрою, які ўжо не пакідаў яе да позняй ночы.

— Не заводзь будзільнік, паспі раніцай лішнюю гадзіну, - сказаў ёй Дзяніс, калі яна ўжо ляжала ў ложку. — Я сам пабуджу дзяцей. Ну, спакойнага сну...

І сон яе сапраўды быў спакойным ажно да раніцы. Яна ўжо гатова была прачнуцца, ужо чула голас Дзяніса з суседняга пакоя, і на кухні чайнік адзываўся свістком, мабыць, дзеці пачыналі снедаць. А пасля — бы правалілася некуды. Ненадоўга, але гэтага было дастаткова, каб вымалявалася аблічча, пра якое яна ўжо паспела забыцца. Вадзім Ізмайлаў... Ён неяк нязвыкла-загадкава пасміхаўся. У вачах паблісквалі хітрынкі, маўляў, а ў мяне сакрэт! Які? "Я ўсё-ткі забраў у цябе свой фотаздымак!"

Яна падхапілася імгненна. Ну, ці не насланнё?! Але якая паслядоўнасць! "Раней ноччу ён мне сказаў, што забярэ сваё фота, а сёння, аказваецца, ужо і забраў!" Э-э, не! З ёю ў такія гульні не пагуляеш. Зараз жа яна знойдзе гэтае фота... Дзе тыя альбомы, што давала студэнту-практыканту? Тут яны... Так і засталіся ляжаць на стале. І, здаецца, вось у гэтым бачыла яна Вадзеў фотаздымак. Перагарнула старонку за старонкай — няма! Значыцца, памылілася. Узяла другі альбом, але і там толькі сямейныя здымкі. Яшчэ раз пагартала старонкі... Ягонага фота і сапраўды не было. І раптам узарвалася ў думках: "Пракляты студэнт!... Ну, вядома, гэта ён... Ён узяў Вадзева фота! А чаму б і не? Славуты кінарэжысёр. Вадзю ведаюць і ў Нью-Йорку, і ў Парыжы, і ў Лондане... Пра ягоныя фільмы апошняе дзесяцігоддзе гаворыць увесь свет. Як было не спакусіцца?! І ўсё-ткі яна пакажа гэтаму студэнту... Практыканту няшчаснаму. Яна пазвоніць галоўнаму рэдактару "Культуры" і ён прымусіць яго вярнуць ёй гэты фотаздымак!

Пайшла на голас дачкі... У пярэднім пакоі тая раскручвала бігудзі і штосьці гаварыла бацьку. Узрадавалася, пабачыўшы яе:

— Ма-а, я спазняюся! Пачысці мае туфлі.

— Яшчэ чаго не хапала! Чым ты

СПАДЧЫНА

# "Ужо ружавее ўсход..."

***У творчай спадчыне майго дзеда, паэта Аркадзя Моркаўкі, якая захоўваецца ў нашай сям'і, апроч рукапісаў вершаў і паэм, што ўжо выходзілі ў свет і павінны ў бліжэйшы час выйсці ў больш поўным аб'ёме, ёсць некалькі чарнавых, цяжкіх для расшыфроўкі накідаў простым, бляклым алоўкам на выпадковых абрыўках паперы, занатаваных для сябе, з найвялікшай асцярожнасцю, бо рабілася гэта сувязным-падпольшчыкам у акупаваным Мінску. Гэтыя накіды бачацца мне вартымі ўвагі сённяшняга чытача.***

●

...І здалося нам, што стары, бязлітасны і суровы Бог нашых дзядоў зненавідзеў нас... І калі здалося нам гэта, згубілі мы напрамак свой, патухлі нашы зоры і пачалі мы захлынацца ў сваёй уласнай крыві.

І ў цемры і роспачы пачалі мы шукаць новага бога — міласэрнага і добрага. І нідзе не знайшлі яго, бо сусвет не можа ўмясціць двух багоў. І памутнела свядомасць наша, затуманіліся вочы нашы, і не маглі зразумець мы Бога Адзінага, які не можа быць ні бязлітасным, ні добрым, бачыць усе адценні фарбаў, якімі ўпрыгожаны свет у час узыходу і заходу сонца, усю пяшчотнасць красак, якімі засеяна зямля, усю радасць нараджэння жыцця. Бо пачуццяў нашых не дастае для таго, каб зразумець усё тое, што робіцца ў душы чалавека і нават у нашай уласнай душы, бо пачуццяў нашых не дастае, каб бачыць тое, што чакае нас заўтра, каб вымяраць бясконцасць часу мінулага і будучыні, прасцяг бясконцасці.

●

...І калі пасівелі валасы яго і барада стала як снежнае крыло, зразумеў ён, што сэрца яго, якім бы ні было яно вялікім і прагным, не можа ўмясціць і адбіць усіх праяваў жыцця.

І ўзяў ён за рукі двух сірот — унукаў сваіх, вывеў іх на дарожку і сказаў:

— Спарышы мае! Белым і ружовым цветам пакрыліся дрэвы нашага саду, каб аддаць свой доўг характару, і семя сваё праз пахучыя і цяжкія плады пасеяць у зямлю. І падуладнае вялікім законам цяжкасці і размнажэння творчая сіла, захаваная ў зерні, падае на зямлю. Бо вырасці, адцвісці, даць плады можа толькі тое, што мае моцную сувязь з зямлёю. Бо і арлы, уздымаючыся на мужных крыллях сваіх вышэй зор, гнёзды свае будуюць на зямлі.

Таемна ад людскога вока, у маленстве сваім я садзіў у глебу разам з вішнёвымі костачкамі прыгожыя каменьчыкі, з надзеяй, што і яны дадуць расткі. Але каменьчыкі не мелі душы. І хоць яны былі круглейшыя і прыгажэйшыя за вішнёвыя костачкі, пад абалонкамі іх не было творчае сілы.

Спарышы мае! Я не магу навучыць вас нічому новаму, бо свет аплецены старымі людскімі сцежкамі, а новыя сцежкі кладуць толькі геніі. Зірніце на дарожку: па ёй хадзілі дзяды маіх дзядоў, па ёй хадзілі мае дзяды, па ёй хаджу я — ваш дзед. Як сярэбраны пасак, згублены дзядамі, упала яна на загуменні, упёршыся адным канцом у магілкі, а другім — у далеч. Больш за дзвесце гадоў жнівеньскімі раніцамі па ёй ідуць жнейкі жаць спелае жыта, і вечарам, змораныя, вяртаюцца да дому, пеючы свае сумныя песні. І ў душы іх, як сярэбраныя хмурынкі, праплываюць пачуцці ціхай радасці, смутку і ласкавых надзей. І вачыма, поўнымі здзіўлення і даверу, яны ўглядаліся ў шырокі Птушыны Шлях, які залатою ракою цёк у бяздонні нерухомай начы.

Ці збыліся іх надзеі? Ці не падманіў іх давер да сваіх зор і да сваёй зямелькі?

Спарышы мае! І сённяшняй ноччу гараць над намі зоры нашага неба, зоры нашай радзімы. Нерухома застылі хаты афарбаваныя сіняватым серабром поўнага месяца. На іржонні застылі цёмныя сілуэты коней і заснулі начлежнікі. І рэдкія знічкі, сарваўшыся з неба, падаюць за кругазор... Усё сціхла і слухае вялікую музыку ўрачыстай начы.

Спакой. Цішыня. Вечнасць.

І бачыць сэрца маё страшныя гады, да якіх набліжаецца наша зямелька і наш народ.

А маладыя сэрцы вашы, дзеткі мае любыя, радасна глядзяць у далеч і прагнуць акавіты.

Ідзіце ў жыццё. Але агонь вашай душы ў першую чаргу хай гарыць для вашай радзімы.

Ты, Ігар, ідзі к людзям. Хай радасць іх будзе тваёй радасцю і слёзы іх — тваімі слязьмі. Цяжка будзе, Ігарка, сэрцу твайму, бо давядзецца табе ісці і па вялікім шляху, і па чалавечым сметніку.

І ты, Улад, ідзі. Ідзі на шляхі сумненняў, шукання і спакусы духу. Як навязаны на ланцуг ліс, сумленне чалавечае кідаецца з боку ў бок і не можа знайсці выйсця, не можа супакоіцца. Рэчы і каштоўнасці на працягу жыцця не маглі знайсці сваёй цаны. Ідзі ў спраты чалавечага духу. Шукай сабе выйсця.

Ідзіце, унукі мае: ужо ружавее ўсход.

●

Паўтары тысячы год таму пачалася гісторыя Еўропы. За гэты час па усіх дарогах і сцежках, пачынаючы ад заходніх берагоў Ангельшчыны і канчаючы схонамі Урала, праехалі і прайшлі пешкам недарэчны дзівак Дон-Кіхот, цяжкаваты і мэтаімклівы Уленшпігель, лірычна вясёлы Робін Гуд, збянтэжаны Петэр Шлеміль і вясёлы ваяка Швейк. За гэты час людскія пакаленні больш за тысячы разоў здымалі спелыя плады дрэў і жалі каласістае дабро.

Нячутна і рытмічна гарталіся гады, загараліся і патухалі зоры, людскія плямёны, падуладныя вонкавым сілам, пладзіліся, разрасталіся ў паасобныя народы і асядалі на абшарах Еўропы. І там, дзе гарэлі першабытныя дзікунскія вогнішчы, вырасталі, раскідаючыся ўзвыш і ўшыркі, гарады, насельніцтва якіх дасягала сотняў тысяч і нават даходзіла мільёнаў...

Плямёны, скрышталізаваўшыся ў паасобныя народы, баранілі сваю зямлю ад суседзяў. І граніцы пасеклі абшары Еўропы.

А тым часам неспакойны і незадаволены чалавечы розум стварыў каштоўнасці, якія ўзвысілі чалавека над яго дзікунамі-прашчурамі. Народжаныя творчым розумам героі геніяльных твораў прынялі рэальныя формы, пачалі жыць сярод людзей і сталі больш рэальнымі і жывымі, чым самі людзі. Ніколі не існаваўшы, а тым часам фізічна рэальны і несмяротны Дон-Кіхот вечна будзе жыць сярод людскіх пакаленняў, некаторыя з якіх нават будуць забыты гісторыяй.

А тым часам неспакойны і незадаволены розум чалавека, падуладны вонкавым сілам, нарадзіў варожыя адна адной ідэі...

Процьлеглыя ідэі інтэрнацыяналізму і нацыяналізму давялі нянавісць народаў і дзяржаў да найвялікшага напружання. Дзяржавы, як гіганцкія спруты, ляглі на абшарах Еўропы, запускаючы таемныя клешні свае ў целы адна адной.

Вось якою стала апошнія дваццаць пяць гадоў Еўропа.

●

...Як абрыдлі гэтыя неданоскі, гэтыя выкідышы хворай Еўропы... Імперыялістычныя драпежнікі, сілком прышчапляюць і свайму народу, і народам забраным свой сымбаль...

*1942*

**Публікацыя Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

КНІГАРНЯ

# Дарогамі Шагала

"...Чый мастак Шагал? Беларускі? Расейскі? Французскі? Яўрэйскі? Схаластычныя тыя пытанні, што не маюць простага адказу, нядаўна яшчэ здольныя былі звесці з розуму не адну тупую галаву ў кіраўніцтве ці нават у мастацтве. Але, як і належала, яны павінны былі ўрэшце скончыцца самым мудрым адказам: нічый! Шагал належыць усяму чалавецтву, сучаснай хрысціянскай цывілізацыі. Менавіта з такой прычыны ён у роўнай меры і французскі, і расейскі, і яўрэйскі, і беларускі...", — словы гэтыя сказаны народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым у ліпені 1992 года. Цытую іх па кнізе "Шагалаўскі зборнік", выдадзенай летась у Віцебску. Фундатар выдання — Віцебскае абласное аддзяленне Беларускага фонду Сораса. Прыналежны і нам, беларусам, Шагал у сваім вяртанні на Айчыну патрабуе высілкаў і не дзяржаўных. Дзяржаўных якраз не стае. А ў многіх выпадках іх, дзяржаўных, проста няма.

Тым і цікавы "Шагалаўскі зборнік" (рэдактар-укладальнік — паэт Давід Сімановіч), што, сатканы з самых розных матэрыялаў, адлюстроўвае шлях вяртання мастака, яго творчасці на радзіму.

Большасць публікацый — даследаванні, як правіла, агучаныя на традыцыйных Шагалаўскіх чытаннях у Віцебску (1991—1995 гады). Аўтары іх — вучоныя, літаратуразнаўцы, мастацтвазнаўцы, пісьменнікі. Кожная з публікацый — спроба адкрыцця шмагграннай шагалаўскай з'явы. Але, бадай, больш уражвае публіцыстыка зборніка. У яе шэрагу — фрагменты з "Дзённіка Шагалаўскага года" Д. Сімановіча. Паэт з'яўляецца старшынёй Шагалаўскага камітэта. Ва ўступным слове да зборніка — "Дарога вяртання (хроніка Шагалаўскіх дзён у Віцебску)" — Д. Сімановіч заўважае: "Доўгай і цяжкай была дарога вяртання на радзіму мастака Марка Шагала. На пачатку яе — непрыняцце і непрызнанне. У канцы — помнік у родным горадзе. А паміж імі — на многія гады расцягнутая барацьба за праўду, гонар і прыгажосць".

Якой была гэтая барацьба, каму ж, як не Д. Сімановічу, ведаць. Быў час, калі ў абласной газеце з яго верша выкрэслівалі наступныя радкі:

***На старой ратуше***<br>***пробили куранты:***<br>***"Мы расскажем тебе***<br>***про Марка Шагала..."***

І гэта — у верасні 1986 года. Тады ж Д. Сімановіч напісаў артыкул "Павага да мінулага". Па ўказанні абкома артыкул быў зняты з паласы "Віцебскага рабочага". І далей старонкі дзённіка сведчаць пра змаганне ўлад з адным толькі імем, з памяццю Шагала.

Прастора Шагала належыць усяму свету. І хіба дрэнна, што вялікі мастак звязаны з Беларуссю сваёй пупавінаю? Навошта была ўся барацьба з геніем? Мо таму, што ў яго мастацкім арсенале не знайшлося месца для ідэалагічнай, марксісцкай зброі? Няўжо мала самага галоўнага — гуманізму? Няўжо мастак павінен быць камуністам? Альбо павінен знаходзіцца ў эміграцыі на пэўным баку?

"Шагалаўскі зборнік" пястуе надзею: а раптам падобнае выданне стане добрай, штогадовай традыцыяй. Святам, космасам Шагала займаюцца многія — і ў Віцебску, і ў Мінску, і ў Маскве, і шмат дзе яшчэ, і ўвогуле ва ўсім свеце. І ўсе даследчыкі падкрэсліваюць надзвычайную прывязанасць мастака да Віцебска, яго паяднанасць і злучанасць з горадам маленства.

"Шагалаўскі зборнік", акрамя ўсяго іншага, — уводзіны ў Віцебск часоў мастака. У гэтым кантэксце сапраўды адкрыццямі з'яўляюцца даследаванні "Культура і побыт яўрэяў на зямлі Шагала" Віктара Голасава, "Віцебскія адрасы Марка Шагала" Аркадзя Падліпскага, "Марк Шагал — у дакументах Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці" Алены Трусавай, шэраг іншых матэрыялаў.

Карлас Шэрман у артыкуле "Марк Шагал гучыць па-іспанску" піша: "Старажытны Віцебск зведаў бязглуздасць кіроўцаў, якія ў свой час адмовіліся нават ад палотнаў Шагала і памяці аб ім. Сёння можна канстатаваць — Майстра вярнуўся на радзіму, але ўсё ж дужа хацелася б, каб шаноўнае спадарства адчувала, што новыя хвалі цемрашальства, магчыма, вычэкваюць свой час". І каб спадарства, грамадства выстаяла, "абараняючы мінуўшчыну". Ці выстаіць? Ці выстаім? Ці абаронім?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Расказваюць, што Сталін, прызначыўшы Цімашэнку наркомам абароны, загадаў тэрмінова ўзброіць армію гімнам у гонар новага маршала. Для паэтаў-песеннікаў наступіла цяжкая пара. Прозвішчы тыпу "Цімашэнка" кепска рыфмуюцца, да таго, усе разумелі: пішаш пра Цімашэнку, а праслаўляць трэба Сталіна. Конкурс зацягваўся. Нарэшце камісія ўхваліла такі тэкст: "Враг, подумай хорошенько, прежде чем пойти войной, — наш нарком товарищ Тимошенко сталинский народный маршал и герой". Жыццё песеннікаў было выратавана, але лішні раз пацвердзілася, які нялёгкі хлеб у гімнатворцаў. Заказчыку трэба, каб яго славілі, а з цяжкасцямі ніхто не хоча лічыцца.

●

Беларуская моўная геаграфія, беларускія мясцовыя гаворкі, не аддзеліш іх ад нашай біяграфіі, ад нашай пакутніцкай гісторыі. Пасля славутых перадзелаў падграбла нас імперыя, зрабіла сваімі задворкамі, і гэта відаць па гаворках. Ад нас адразалі "крэсы", вакол шчыравалі інтэрвенты, дасюль смаленскія вёскі гавораць з беларускім акцэнтам. Самы круты замес на карэнных крывіцкіх землях. Новыя арыенціры — беларускія вёскі Сібіры... Мовы і тэрыторыі, як ты баіш, гісторыя?



ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 2332-461

намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**

публіцыстыкі — 2332-525

пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985

літаратурнага жыцця — 2332-462

крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985

паэзіі і прозы — 2332-204

музыкі — 2332-153

тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153

выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462

навін — 2332-462

мастацкага афармлення — 2332-204

фотакарэспандэнт — 2332-462

бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 7.5.1997 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2697/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12